PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 36 (1999) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 4 ВЕРАСНЯ 1994 г. ЦАНА 4000 зл.

## З БЕЛАСТОКА НА СВЯТУЮ ГАРУ ГРАБАРКУ

IX Паломніцтва з Беластока на Грабарку ўвайшло ўжо ў гісторыю. Пачалося яно традыцыйна, у царкве Святога Прарока Ільі ў Дайлідах. Пілігрымка, якая налічвала звыш тысячы чалавек, вуліцамі кс. Сухавольца, Журавяй і Цыялкоўскага прайшла цераз горад, каб пры вайсковай часці на Новым Месце павярнуць у напрамку Юхноўца. Першая сустрэча паломнікаў з жыхарамі адбылася ў Лявіцкіх, а ўжо ў Юхноўцы калону пілігрымаў спаткаў праліўны паўгадзінны дождж. Паломнікі не былі падрыхтаваны на такую аклічнасць (ад самой раніцы стаяла сонечнае надвор'е) і ўсе прамоклі да апошняй ніткі. Цераз Злотнікі, дзе паломнікаў чакаў абед, дайшлі мы ў Кажаны. Там усё было выдатна арганізавана, а паломнікаў на аддалены начлег нават развозілі на аўтобусе. Другі, святочны дзень — нядзеля — пачаўся з Літургіі. Падчас гэтага Багаслужэння дайшла на нас вестка ад архіепіскапа Савы аб тым, што знайшлі ўкрадзеныя звыш два гады таму з манастыра ў Яблачыне іконы Прападобнага Ануфрыя і Прасвятой Багародзіцы. Пасля вадасвятнага малебна ў каплічцы з нагоды Святых Мучанікаў Макавеяў, паломніцтва праз лугі падалося ў напрамку ракі Нарвы. У сувязі з тым, што пасля дажджоў вада паднялася, мясцовыя прыхаджане на скорую руку зрабілі кладку. Частка паломнікаў пераправілася на трактарах з прычэпамі. Такі „дэсант" паломнікаў цераз Нарву, відаць, не хутка паўторыцца. Недалёкую рэчку Арлянку перайшлі мы беспраблемна бродам і цераз Плюцічы, дзе дарослыя віталі нас хлебам і соллю, а дзеткі кветкамі, дайшлі ў Райск. Пасля малебна і падсілкавання, цераз Гацькі і Бельск-Падляшскі, пайшлі мы на чарговы другі начлег у Парцава. На гэтым этапе многа працы было ў лекаркі і медсясцёр, якія займаліся то мазалямі, то пухірамі. Карэтка хуткай дапамогі маркі „Івека" (спецыяльна нанятая арганізатарамі), якая ехала за калонай, спатрэбілася не раз.



*З Беластока прыйшло каля дзвюх тысяч паломнікаў.*

Чарговы этап пралягаў цераз Градалі ў Вульку-Выганоўскую, з адпачынкам на акраіне Пашкоўшчыны. Варта ў гэтым месцы прыгадаць, што з многіх мясцовасцей, дзе жыхары чакалі паломнікаў, загадзя ў нашым напрамку высылалі яны „разведчыкаў" на матацыклах, веласіпедах або на машынах, каб тэрмінова падрыхтавацца да ўрачыстага прывітання.

Пасля начлегу ў Вульцы-Выганоўскай і навакольных вёсках, трэці па чарзе этап павёў нас цераз Паўлінава, Малочкі, Жукі (адпачынак з падсілкаваннем), Дашы ў Чаромху. Цераз гэтыя мясцовасці ехалі ўслед тры грузавікі, якія везлі багажы, каб паломнікі не напаміналі насільшчыкаў на вакзале. Нягледзячы на такую дапамогу, некаторыя паломнікі ахвяраваліся самі несці свой багаж.

У Чаромсе ўсю пілігрымку даслоўна ўмомант „разабралі" па хатах.

Перадапошні этап — гэта Зубачы, Вулька-Нурэцкая, Тымянка і Таляты. Даўжэйшы прывал паломнікі наладзілі ў Вульцы-Нурэцкай, дзе можна было падсілкавацца. Там была таксама нагода яшчэ больш падмацавацца духова і глыбей спазнаць сваю веру, паколькі нястомны айцец ігумен Гаўрыіл з Супраслі ўсюды, дзе гэта было магчымае, ноччу (у цэрквах у „начлежных" мясцовасцях) і днём праводзіў сустрэчы. У нейкай меры з дапамогай прыйшлі яму арганізатары паломніцтва, прыдбаўшы розныя брашуры аб нашай Праваслаўнай Веры, якія раздаваліся ў мясцовасцях на шляху паломніцтва. Апошні этап адрозніваўся ад папярэдніх тым, што на яго шляху ўдзельнікі неслі вялікі шасціметровы крыж ад усіх паломнікаў. З паловы дарогі аж да самой Святой Гары Грабаркі спадарожнічаў нам невялікі дождж. Нягледзячы на кепскае надвор'е, не адступала ад нас здымачная група Польскай фільмавай хронікі, якая ўжо папярэдняга дня ў Вульцы-Нурэцкай прымкнула да нас. Як паведаміла нам загадчыца здымачнай групы, першы вераснёўскі выпуск ПКФ (каля 10 хвілін) поўнасцю будзе прысвечаны нашаму паломніцтву і будзе ён дэманстравацца па II праграме TVP.

Наваколле Святой Гары прывітала нас мноствам страганоў-латкоў, але ў нас склалася токое ўражанне, што на кірмашнай плошчы і на аўтастаянках парадак быў намнога большы, чым год таму.

Паломніцтва традыцыйна закончылася абыходам на каленях царквы на Святой Гары Грабарцы, падзячным малебнам і ўстанаўленнем крыжоў: вялікага — ад усёй пілігрымкі і малых — ад паасобных паломнікаў.

На заканчэнне суарганізатар паломніцтва — настаяцель прыхода ў Дайлідах а. Мікалай Баравік падзякаваў усім за ўдзельніцтва ў пілігрымцы і за нясенне сведчання Праваслаўя.

Афіцыйнае заканчэнне паломніцтва адбылося пры ўстноўленых крыжах, але сапраўдным яго завяршэннем стала само Свята Праабражэння Гасподняга, якое было галоўнай мэтай пілігрымкі. Кожны, аднак, перажывае гэтае Свята па-свойму, індывідуальна або ў крузе сям'і ці знаёмых, і так яно павінна быць.

С. Н.

Фота Яраслава Троца



*Падчас малебна.*

## 50 ДЗЁН ПРЭЗІДЭНТА

Выбарчая кампанія Аляксандра Лукашэнкі як кандыдата на пост прэзідэнта Беларусі не пакідала ніякіх сумненняў у большасці грамадзян рэспублікі, што ён, менавіта, будзе гарантам вяртання „сацыялістычнай справядлівасці і дабрабыту". Журналістам і палітычнай канкурэнцыі кандыдат даваў повады, якія дазвалялі акрэсліць яго дэмагогам і папулістам. Лукашэнка гаварыў людзям тое, што яны хацелі пачуць. Рашуча выйграў ён прэзідэнцкія выбары, нягледзячы на закіды ў ігнараванні, перш за ўсё, з боку інтэлігенцкага асяроддзя.

Першыя рашэнні прэзідэнта Лукашэнкі нечакана пайшлі ў іншым напрамку, чым спадзяваліся тыя, хто памятаў змест лозунгаў з выбарчай кампаніі. Каб падняць цану гарэлкі з 9 на 27 тысяч, ведаючы, што для шматлікіх выбаршчыкаў з'яўляецца яна прадуктам першай патрэбы, неабходна мець не абы-якую адвагу. За гэтым пайшло павышэнне цэн на мясныя прадукты, хлеб і малако, транспартныя паслугі чыгункі і метро. На хлеб цана ўзрасла ў 10 разоў, на малако — у 30. З аднаго боку прыняць такія рашэнні прымусіла сітуацыя. Адсутнасць нармальнай мяжы з Расеяй і намнога вышэйшыя цэны ў гэтай суседняй дзяржаве паўплывалі на тое, што беларускія харчовыя прадукты бесперашкодна плылі на ўсход. З другога боку ўрад Кебіча баяўся паслядоўнасцей якога-небудзь зруху ў галіне цэн на харчовыя прадукты і таму неверагодны эканамічны абсурд пашыраўся з дня на дзень на працягу некалькіх месяцаў. Лукашэнка пачаў толькі наводзіць нармальныя адносіны паміж попытам і прапанаваннем, уключаючы ў гэта фактар грошай. Гэтая палітыка, хаця яна згодная з інтарэсам дзяржавы, напэўна не прыдбае яму новых прыхільнікаў у змучаным штодзённымі праблемамі грамадстве, але ўжо мяняе адносіны да яго свету бізнесу і беларускай інтэлігенцыі (не блытаць з савецкай). Спрыяльнасць з боку гэтай апошняй групы атрымаў ён закрываючы серп і молат на Доме ўрада ў Менску беларускім гербам „Пагоня".

Хаця ў кожным выступленні прэзідэнт гаворыць па патрэбу прыватызацыі і гэта амаль паводле праграмы апазіцыйнага Беларускага народнага фронту, сапраўднай праверкай яго палітыкі будзе вырашэнне лёсу сацыялістычных прамысловых гігантаў, якіх патэнцыял выкарыстоўваўся апошнім часам у 20—30%. Кожнае вырашэнне ў гэтай справе будзе дрэнным, а дылема заключаецца толькі ў тым, каб выбраць менш дрэнны варыянт. Прыватызацыя ў Беларусі абазначаць будзе амаль тое самае, што ў Польшчы — беспрацоўе і ўсе яго грамадскія паслядоўнасці. Іншага выхаду, аднак, няма, асабліва калі ўсе суседнія рэспублікі — апрача Украіны — даўно ўжо пайшлі па гэтым шляху. Лукашэнка, аднак, як палітык — малады чалавек, а гэта абазначае, што яшчэ можа вучыцца. Яго каманда — гэта ў большасці таксама маладыя людзі, якія пра камунізм часцей расказвалі анекдоты, чым успрымалі яго ўсур'ёз. Куды аднак павядуць яны Беларусь, пакуль што невядома. Як паінфармавала газета „Звязда" (н-р 163 ад 9.08.1994 г.) на працу ў тэхнічнае абслугоўванне адміністрацыі прэзідэнта прымаюць машыністак, перакладчыкаў, стэнаграфістак, якія ведаюць беларускую мову. Было б жартам гісторыі, калі б Лукашэнка зрэалізаваў праграму БНФ па адраджэнню беларускай мовы і культуры.

Яўген Мірановіч

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*W przegrzanej atmosferze narodowościowej pojawiły się w prywatnych rozmowach mieszkańców Bielska oskarżenia prawosławnych o zapędy rusyfikacyjne... Działacze związani z byłym Komitetem Obywatelskim i dzisiejszą „Jednością" nazywają swych przeciwników politycznych kacapokomuną. Wielu działaczy bielskiej prawicy cechuje wzmożona nienawiść do tak zwanej komuny. Większość z nich w minionym okresie była członkami PZPR, zajmowała eksponowane stanowiska, a dzisiaj krzyczą, że ich prześladowano. To typowa zaciekłość neofitów, którzy zmieniają poglądy, pragną czymś się wykazać.*

*(Kurier Poranny, nr 167)*

* * *

*Wiceprezydent Białegostoku Ryszard Tur na pytanie, czym należy tłumaczyć spektakularne zwycięstwo ugrupowań prawicowych w Białymstoku powiedział: Taki wynik wyborów to strach przed rusyfikacją.*

*(Gazeta w Białymstoku, nr 150)*

Якая глыбокая палітычная рэфлексія! Які дасканалы аналіз сітуацыі! Чалавек з такім інтэлектам толькі марнуецца ў Беластоку.

* * *

*W Polsce była komuna i „Solidarność", więc pupile byli po jednej i po drugiej stronie. Komuna miała pewną skazę cywilizacyjną, mianowicie promowała debilków, łamiąc karki tym, którzy są przytomni. Nowi ludkowie, którzy po 1989 r. przyszli do władzy, mieli za ciasne mózgi i były one tak samo pozbawione wyobraźni, jak te u ich poprzedników.*

*(Gazeta Polska, nr 31)*

*Pani towarzyszko Sierakowska! Pani towarzyszka jesteś klinicznym obrazem niewyżytej towarzyszki. Towarzyszka — jako ta niewyżyta — jesteś bezczelna!*

*(Там жа)*

От такая сабе нармальная публіцыстыка.

* * *

*W słownikach języka polskiego jeszcze nie ma słowa „oszołom" natomiast jest „oszołomienie" jako stan odurzenia, zamroczenia, półprzytomności. Oszołomstwo szczególnie przylgnęło do ugrupowań wywodzących się z ruchu solidarnościowego, z samą „Solidarnością" na czele.*

*(Kurier Poranny, nr 167)*

* * *

*W intencji Wojska Polskiego nabożeństwo odprawił Prawosławny Ordynariusz Polowy WP ks. abp. prof. Sawa. Chór odśpiewał dedykowaną Wojsku Polskiemu pieśń „Mnogo leta".*

*(Gazeta Współczesna, nr 156)*

Якаясь новая царкоўная песня?

* * *

*Narodową walutą Rosji stał się dolar. Rubel jest tylko papierkiem od cukierka, który został zjedzony dawno temu.*

*(Wprost, nr 23)*

Але хто з'еў тую „канфетку"?

* * *

*Nawet w warunkach stalinowskich Moskwa zmierzała tylko do zniewolnienia Polski, nie zaś do kompletnego zniszczenia Polaków. Hitler miał jasny plan wymordowania warstwy oświeconej, zdziesiątkowania społeczeństwa, a po wprowadzeniu Polaków do podludzi ciemnych, tępych i bezwolnych, wykorzystania ich do roli niewolników Rzeszy. System sowiecki pozwalał rozwijać się w wielu dziedzinach życia zbiorowego, stawić opór w imię niepodległości i suwerenności co w warunkach hitlerowskich było nie do pomyślenia bez ryzyka narodowej hekatomby.*

*(Polityka, nr 33)*

* * *

*Гарадзенькі каталіцкі біскуп Аляксандр Кашкевіч толькі на словах наракае на недахоп ксяндзоў, якія ведаюць беларускую мову, на самой справе робіць усё, каб іх не было. У Горадні ксёндз заклікаў парафіянаў дзякаваць Богу, што іх біскуп зьяўляецца палякам. Ксяндзоў, якія толькі пачнуць праводзіць набажэнства на беларускай мове зразу пасылаюць у Ватыкан, Маскву, у іншыя месцы, абы далей ад межаў Беларусі. Усё гэта вельмі нагадвае касьцельную палітыку ў перадваеннай Польшчы, калі беларускія ксяндзы ўвесь час перасьледаваліся. Розьніца толькі ў тым, што сёньня гэта робіцца не ў польскай, а ў беларускай дзяржаве.*

*(Свабода, н-р 29—30)*

* * *

*Хаця ў кантэксце геапалітыкі Беларусь павінна ісці на захад, даганяць Эстонію, Чэхію, Летуву, краіна гэта, аднак, застаецца савецкай па менталітэце, рускамоўнай з архаічнай калгасна-прыгоннай вёскай.*

*(Літаратура і мастацтва, н-р 25)*

Гадзіннік у Беларусі таксама рушыў з месца. На сто працэнт невядома толькі, у якім напрамку, але, здаецца, што з усходу на захад.

* * *

*W białostockim „Polmosie" średnie zarobki pracowników wynoszą 10 mln zł.*

*(Kurier Poranny, nr 169)*

Ходзяць чуткі, што найбольшы прыбытак фірме дае прадукцыя сіняга каньяку. Прадукт танны, смачны, высакаякасны і высокаградусны. Знаўцы высакародных напіткаў гавораць, што з самай раніцы смакуе ён лепш, чым смятана і зразу прыводзіць чалавека ў адпаведную форму. Кардыёлагі прапануюць піць яго малымі глыткамі, а першую папяросу закурыць толькі пасля другой „муштардоўкі".

* * *

*Uboga gospodarczo Republika Białorusi zasobna jest w wiele tworów ducha, z którymi chętnie nas zapozna. Choćby w dziedzinie literatury, z którą polski czytelnik rzadko miał okazję zetknąć się wcześniej. W większości Białorusini są szczęśliwi, że nie muszą już tego czynić via Moskwa.*

*(Rzeczpospolita, nr 188)*

Урэшце хтось напісаў, што існуе нейкая беларуская культура, што на тэрыторыі Беларусі жыў і працаваў Марк Шагал. Калі так далей пойдзе, можа хтосьці з варшаўскіх журналістаў (на беластоцкіх няма што спадзявацца) заўважыць масла ды булкі ў гарадзенскіх крамах. Беларускую дзяржаўнасць заўважылі ўжо нават некаторыя палітыкі. Гэта ўжо нядрэнна, а ўсё паказвае, што будзе яшчэ лепш.

* * *

*Legalnie działają obecnie w Polsce 253 partie, w kolejce do rejestracji czekają następne, m.in. Polska Partia Erotyczna, Partia Przyjaciół Whisky oraz Grupa Działań Społecznych Akcja Absurdalna, zamierzająca usankcjonować wszechobecność absurdu w życiu politycznym.*

*(Polityka, nr 33)*

Палітычнае жыццё ў Польшчы не зусім нуднае.

• • •

# З мінулага тыдня

**8 мільёнаў вучняў і 560 тысяч настаўнікаў** пачало новы школьны год. У першы клас прыйшло **585 тысяч** дзяцей, на 10% менш, чым два гады таму. Школы, якія падлягаюць куратарыям асветы, задоўжаны цяпер на 2,7 більёна злотых і невядома, ці да канца года завінавачанасць гэтая будзе пагашана.

**1 верасня аб'яўлена Днём ветэрана**, — паведаміў міністр **Адам Дабраньскі** — кіраўнік ведамства па справах ветэранаў і рэпрэсіраваных. Пастанова аб устанаўленні Дня ветэрана была прынята ў чэрвені з мэтай „ушанаваць геройства польскіх салдат, якія змагаліся за свабоду і незалежнасць Айчыны".

**Сем'і салдат з Вэстэрплятэ і з атрада Губаля 55** гадавіну выбуху II сусветнай вайны будуць адзначаць на Вэстэрплятэ, у Цехацінку, Чанстахове і Варшаве. Аргкамітэт святкаванняў не прадугледжвае ўдзелу ў гэтых урачыстасцях ветэранаў з Нямеччыны.

**У Беластоку пабывала дэлегацыя Саюза беларускіх прадпрымальнікаў**, якую ўзначальвалі віцэ-міністр фінансаў **Георгій Тарасевіч** і прэзідэнт СБП **Уладзімір Карагін**. На сустрэчы з беластоцкімі рамеснікамі і прадпрымальнікамі абмяркоўвалася новая мадэль супрацоўніцтва паміж суседнімі дзяржавамі. Польскі бок цікавіўся магчымасцямі заснавання фірмы або акцыянернага таварыства на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, а госці — перспектывамі наладжання супрацоўніцтва ў мэблевай, аўтамабільнай, упаковачнай і перапрацоўчай галінах. Абодва бакі дайшлі да вываду, што яшчэ рана падпісваць папярэднія дамовы.

**Беларускія спартсмены**, якія прымалі ўдзел у фінале Гран-пры Польскага лёгкаатлетычнага саюза ў **Беластоку**, заваявалі важныя месцы ў паасобных відах спорту. **Людміла Губкіна** перамагла ў кіданні молата з вынікам 51,56 м. На першым месцы апынулася таксама **Людміла Філімонава**, якая кінула дыск на адлегласць 59,06 м. Другое месца ў бегу на дыстанцыі 1 500 м заняла **Лена Кончыц** (4:15,02 хв.), а ў скачках у вышыню — **Таццяна Храмава** (183,3 см). Сярод мужчын пераможцамі аказаліся: **Віктар Баразноўскі**, які кінуў дыск на адлегласць 60,72 м і **Генадзь Сідараў**, які ў скачку з шастом перасягнуў вышыню 5,50 м. Другія месцы занялі: **Ігар Барысаў** — бег на 100 м, 11,09 сек., **Віталь Алісевіч** — кіданне молата, 77,70 м і **Аляксандр Главацкі** — скачкі ў даўжыню, 7,84 м. На трэцім месцы апынуліся: **Віктар Рудэнік** — скачкі ў даўжыню, 7,61 м і **Валерый Ягоўдзік** — кіданне дыска, 54,22 м.

**У рамках XXXI Фестывалю ў Сопаце** прайшоў марафон поп-музыкі, у якім рэй вялі зоркі музыкі дыска-пола з Беластока. Некалькі тысяч паклоннікаў „тратуарнай" музыкі ўсю ноч танцавалі пад гукі модных песень з вясковых дыскатэкаў. Канцэрт вёў вядомы тэлежурналіст **Марэк Сяроцкі**. На сопацкай сцэне выступілі калектывы „Мілана", „Акцэнт", „Бойс" і „Колер". — Мы граем усё: цыганскія, беларускія, украінскія песні, вядома, перарobленыя на польскі лад, — сказаў член гурту „Акцэнт".

**Агульнапольскія дні пчалаводства** пад лозунгам „Мёд корміць і лечыць" адбыліся ў Эльблангу. Беластоцкае ваяводства на мядовым кірмашы прадстаўлялі чатыры асобы: сеньёр беластоцкіх пчаляроў **Сцяпан Паленік** з Гайнаўкі, старшыня Ваяводскага саюза пчалаводаў **Славамір Бакер, Леон Янушкевіч** з Беластока і **Вацлаў Дудзінскі** з Баршчоўкі, якія павезлі з сабой выстаўку „Мёды Беласточчыны".

**У Бельску-Падляшскім** у палове жніўня выйшаў з друку першы нумар **„Tygodnika Podlaskiego"** тыражом 1 300 экземпляраў. Выдае яго Фонд на карысць лакальнага развіцця, а галоўным рэдактарам з'яўляецца **Міраслаў Суліма-Даліна**. У перадавіцы рэдакцыя заяўляе, што „згодна Канстытуцыі, да нацыянальнай і рэлігійнай нянавісці газета падбухторваць не будзе; не будзе яна таксама прапагандысцкім рупарам ніводнай партыі ці палітычнай групоўкі".

**Управа горада Гайнаўкі** абмяркоўвала на сваім пасяджэнні праект пастановы аб гербе горада. — Гэты герб існаваў у свядомасці жыхароў горада, аднак, ніколі фармальна не быў ён зацверджаны, — сказаў сакратар Управы **Ежы Серак**. Прапанаваны праект будзе разглядацца на сесіі Гарадской рады.

**У Мельніку** будзе створана памежная застава. Дзякуючы гэтаму стане магчымым адкрыццё новага гранічнага перахода ў Такарах. Новая застава ўзмоцніць бяспечнасць дзяржаўнай граніцы на поўнач ад ракі Буг. Паўднёва-ўсходнюю Беласточчыну пакуль што ахоўваюць толькі дзве заставы: у Чаромсе і Белавежы.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- З выпадку 2000-нага нумара тыднёвіка:
  - > — успаміны рэдактараў і карэспандэнтаў,
  - > — пра што пісалі 38 гадоў таму і пазней,
  - > — архіўныя здымкі.
- Апошнія весткі з Беласточчыны і не толькі.

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Карэктура ўказа

Змяненні ва ўласны ўказ прыйшлося ўнесці прэзідэнту Аляксандру Лукашэнку. Пасля дадатковага вывучэння карэкціроўцы быў падвергнуты ўказ аб стварэнні Кіраўніцтва справамі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, наконт якога разгарэліся гарачыя спрэчкі ў Прэзідыуме Вярхоўнага Савета. Прэзідыум парламента збянтэжыла палажэнне ўказа аб тым, што фінансаванне, матэрыяльна-тэхнічнае і сацыяльна-бытавое забеспячэннне дзейнасці адміністрацыі прэзідэнта і ВС ускладалася на створанае Кіраўніцтва. Змяненнямі ўказ прыведзены ў адпаведнасць з існуючымі заканадаўчымі актамі. Гэты прэцэдэнт можна лічыць выключэннем з правіл, пакуль усе праекты ўказаў падвяргаюцца старанная юрыдычнай ацэнцы. Аднак, на жаль, прыходзіцца сустракацца з выпадкамі, калі законы не стыкуюцца з Канстытуцыяй або адзін з адным.

### Кансультацыйны савет

Партыя народнай згоды накіравала Аляксандру Лукашэнку прапанову стварыць грамадскі кансультацыйны савет, у які ўвайшлі б партыі, рухі, прафсаюзы і прадпрымальнікі. Галоўнай задачай такога савета ПНЗ лічыць абмеркаванне сумесна з прэзідэнцкай камандай і кабінетам міністраў розных праектаў праграм выхаду краіны з крызісу.

### Дэнамінацыя „зайчыка"

20 жніўня была праведзена дэнамінацыя грошай з мэтай прывесці кошт беларускага рубля ў адпаведнасць з наміналам разліковага білета Нацыянальнага банка. Цяпер „зайчык" роўны аднаму расейскаму рублю, а „зубр" — 100 рублям. Палягчэлі ў сувязі з гэтым і цэннікі. Хлеб, напрыклад, не каштуе ўжо 3 900 „зайчыкаў", а толькі 390 рублёў. У дзесяць разоў адпаведна „паменшыліся" таксама заработныя платы.

### Інтэрнацыяналісты не здаюцца

Рэспубліканскі і Менскі гарадскі саветы Руху за дэмакратыю, сацыяльны прагрэс і справядлівасць накіравалі на адрас прэзідэнта Рэспублікі Беларусь пісьмо, у якім утрымліваецца прапанова вынясення на бліжэйшую сесію Вярхоўнага Савета пытання аб афіцыйным зацвярджэнні двухмоўя, гэта значыць, аб наданні рускай мове статуса дзяржаўнай. На думку ўдзельнікаў Руху, закон аб мовах БССР ад 1990 г., які вызначае ў якасці дзяржаўнай беларускую мову, прыняты насуперак жаданням большасці насельніцтва рэспублікі.

### Вываз хлеба спынены

Пасля павышэння цэн рэалізацыя малочных вырабаў па рэспубліцы скарацілася прыблізна на 20%, а хлебабулачных — на 10—15%. Большыя змены ў сітуацыі з хлебам адбыліся толькі ў прыгранічных з Расеяй раёнах, дзе аб'ёмы рэалізацыі знізіліся ў паўтара—два разы. Дарэчы, такога эфекту імкнулася дабіцца кіраўніцтва рэспублікі.

### Акцыя мытнікаў

Чатырохдзённую буйную аперацыю з прымяненнем верталётнай тэхнікі і іншых навейшых сродкаў выяўлення і сувязі правялі мытнікі ў Горацкім раёне на мяжы з Расеяй. Пасля павышэння цэн не выяўлена ні аднаго выпадку вывазу хлеба, мясных і малочных прадуктаў. Затрыманы былі толькі „мяшочнікі" з агароднінай, бульбай і таварамі народнага спажывання.

### Дарагая пшаніца

Да сусветнага ўзроўню паднята ў Беларусі цана на пшаніцу — да больш за 100 долараў за адну тону. Многія гаспадаркі не прамінулі, як кажуць, азалаціцца. Абсалютным удачнікам стала аграфірма з Астрамечава Брэсцкага раёна, земляробы якой прадалі дзяржаве 4 тысячы тон харчовай пшаніцы з добрымі якасцямі.

### Рэстаўрацыя храма

Свята-Мікалаеўская царква, што стаяла ў цэнтры мемарыяльнага комплексу „Брэсцкая крэпасць", набывае новае жыццё. Яе руіны будуць адрамантаваны і храм аднюўлены. Наперадзе шмат працы па рэстаўрацыі царквы, якая дзейнічала з 1876 па 1915 гады. Далейшы яе лёс быў такі трагічны, што сёння засталіся толькі адны паўразбураныя сцены.

### Беларускамоўныя ў меншасці

Каля трохсот выданняў, што ўбачылі свет у ліпені, сталі экспанатамі выставы „Беларуская кніга — 94", якая адбылася ў Менску. Стала яна штомесячнай справаздачай беларускіх кнігавыдаўцоў. З ліпеньскіх навінак толькі 33 кнігі выйшлі на беларускай мове.

### Цяга да старога

За вяртанне ў калгас прагаласавала частка працаўнікоў акцыянернага таварыства „Горскае", што на Магілёўшчыне. У былым калгасе ўжо некалькі гадоў вядзецца эканамічны эксперымент, дзякуючы якому ўдвая павялічылася вытворчасць мяса, а малака — амаль на 40%. І ўсё ж такі людзей пацягнула да старога — у калгас. Падставай для незадавальнення паслужылі празмерныя падаткі ад зарплаты, якіх раней ад калгаснікаў не бралі. Акрамя таго многіх не задавальняе высокая ступень адказнасці, якая патрабуецца ад кожнага, хто тут працуе, асабліва тых, хто любіў зачарпнуць незаробленае з агульнага катла.

# ЯК НА ВОСТРАВЕ

Анастасія Фірсовіч жыве на відаўскім хутары недалёка галадоўскага лесу. Жыве як на востраве. У пачатку жніўня яе панадворак акружала жоўтае мора пэгеэраўскага збожжа.

**Фірсовічы раней называліся Фірсюкамі**

і прыбылі ў Відава з Новага Беразова.

— Я здзіўляюся, што Андрэю Гаўрылюку ніхто ў Відаве не расказаў пра памор вёскі, — кажа Анастасія Фірсовіч. — Відава раней стаяла ў другім месцы, больш на поўнач. Зараза была тады, як і ў Мельніку. Потым паз'язджаліся сюды людзі зусюль і ўжо пабудавалі цяперашнюю вёску. Нас яшчэ да першай вайны называлі беразоўцамі, а Артымовічаў, напрыклад, дубінцамі. А Белаказовічы прыехалі дзесьці з-пад Зімнохаў. Але і яны не называліся Белаказовічамі адразу, а Белакозамі. Мой дзед (1860 год нараджэння) пісаўся ўжо Фірсовічам, але яго старэйшы брат, то яшчэ Фірсюком.

Фірсовічы на хутар перабраліся ў 1939 годзе.

— Ой, мучыліся мы, — уздыхае цётка Анастасія. — Тыя, што засталіся ў вёсцы, то вайны зусім не бачылі. А праз нашу хату чатыры партызанцкія атрады прайшлі. Я і цяпер іх помню, першым быў атрад „Дзяржынскага", камандзір другога называўся Пархоменка, трэці атрад „Жукава", а чацвёрты „Слава" — іх аж з Масквы скінулі. Хутары, што бліжэй да лесу, немцы пазносілі, то яны ўсе праз наш прайшлі. Я рабіла тады на торфе, а потым у фалькsдойча Мілера, які меў каменячосную фірму на рагу вуліц Славацкага і Студзіводскай.

**Добрыя былі людзі**

— Фольксліету падпісалі яны толькі ў маі 1944 года. Я нядаўна спаткала іхняга сына, Тадзіка, пазнаў мяне, пагаварылі. Нас, рабочых, было там чалавек дванаццаць. Я, праўда, пры бетоне не працавала, а была за гаспадыню, на кухні. Там я і „Новую дарогу" брала. Здаецца, два нумары на фірму прыходзілі. Я брала і партызанам заносіла. Калі раз прачыталі яны верш Шэршня „У Іране, у Тэгеране...", вельмі абурыліся, як ён, знача, пасмеў так Сталіна абшмараваць.

**З „Нівай" ад пачатку**

— Пасля вайны я працавала ў ПССе. Калі пачала выходзіць „Ніва", то сакратар партыі вельмі настойваў, каб яе выпісваць. І давай да мяне, ты праваслаўная, па-руску чытаць умееш, падпісвайся. А я, хоць і чыстакроўная беларуска, але ж у школе не вучылася ні рускай, ні беларускай мовам. За санацыі ўсяго тры класы скончыла, а толькі потым, у пачатку 60-х запісалася ў „вечароўку" ў Галады, каб скончыць поўную сямігодку. Але, як тады на „Ніву" падпісалася, так і не развітваюся з ёю па сённяшні дзень. Я вам скажу, нашы беларусы не патрыёты, бо і „Нівы" не чытаюць, і дзяцей па-польску хрысцяць, ды ўжо і на могілках, на крыжах па-польску пішуць. А я сваё падтрымліваю. Летась, 9 лістапада, завезла ў Беларускі музей бабін саян, што пашыты быў яшчэ перад 1870 годам, і даваенны мамін саян (маю на думцы першую вайну), і яшчэ парцяк — такую спадніцу парцяную. Нашто маюць валяцца, а так хоць людзі ўбачаць, якія ў нас здольныя майстры былі. Калі я заехала ў Гайнаўку, выйшла з аўтобуса і пытаю аднаго старэйшага чалавека, дзе тутака будзе музей.

„A ty cholero, ty nie do muzeum, ty na targ",



*Анастасія Фірсовіч: — Я вам скажу, нашы людзі то не патрыёты.*

— прывітаў ён мяне. Бо і сапраўды, я з торбамі, акурат як на базар. Ну але дапыталася я, там мяне сустрэлі вельмі сардэчна, пачаставалі гарбатай, пранікамі. Майсеня наракаў, што Бельск вельмі мала ахвяроўвае і сродкаў на пабудову, і экспанатаў. А мае спадніцы будуць праслаўляць Галады, бо там былі вытканы. Толькі цэтлік такі будзе, што ахвяравала Анастасія Фірсовіч з Відава. А сёлета ў чэрвені ахвяравала я манастыру на Дайлідах падушку, пакрывала, прасціну. Бацюшка Місіюк прасіў па-радые, каб людзі складалі ахвяраванні, але я тады хвора ляжала і змагла ано цяпер нядаўна завесці свае сціплыя дары. Я беларускае радыё слухаю, Беластока стараюся не прапусціць і на Менск накручваю. І на выбарах падтрымліваю заўсёды беларусаў. Калі пабачыла каля Васкрасенскае царквы беларускі спісак у Гарадскую раду, то шкадавала, што я не да горада належу, ано да гміны. На гмінныя выбары я не хадзіла, але ў апошніх парламенцкіх прагаласавала за Лукашку і Чыквіна.

Бацька Анастасіі Фірсовіч скончыў фельчарскае вучылішча. Служыў фельчарам на франтах I сусветнай вайны.

— Бацюшка Кастыцэвіч, бацька пазнейшага дырэктара ліцэя, то заўсёды тату доктарам называў. Разумны былі тата мой чалавек, але потым не паліся нікуды, засталіся ў Відаве і жыць было не надта раскошна. Пасля вайны

**пакаштавалі і ПГРа.**

— А куды было дзявацца, як падаткамі аблажылі. Тата там былі і кладаўшчыком і бухгалтарам, ну а я, як ужо казала, працавала ў ПССе. Як падпісалася я на „Ніву", то больш не тата чыталі за мяне. Бо ў мяне не заўсёды час быў, а тата яе ад пачатку да канца прачытаюць і потым мне ўсё расказваюць. Але і тата яшчэ ў 89 гадоў за плугам хадзілі. А жылі 96 гадоў. Сёння з вялікай сям'і Фірсовічаў засталіся ўсяго 5 чалавек, акрамя мяне яшчэ Міша, Жоржык, Манька і Пракоп з 1905 года, які ўжо чуць ходзіць.

На відаўскіх хутарах таксама ўжо пуста. Хаты з забітымі вокнамі, дзіравыя стрэхі клуняў, здзічэлыя садкі. Хто выбраўся адсюль у горад, хто ў лепшы свет...

Абжыты ўсяго адзін-адзінюсенькі хутар. Старэйшая кабета Анастасія Фірсовіч трымае курэй, чатыры авечкі і двух сабак, адзін з якіх нядаўна задзёр яшчэ аднаго жыхара хутара — кошку.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**





## ПРАДАЮЦЬ

Ці палітыкі галоў не маюць,  
А сэрцы пагубілі? —  
Нашу бедную дзяржаву  
У жабрацтва пусцілі!  
Хто паедзе за мяжу,  
Кожны там жабруе,  
На калені ён стае  
Ды ручкі цалуе:  
„Дайце долар або два,  
Могуць быць і маркі,  
Я за гэта вам аддам  
Фабрыкі й фальваркі!"  
— Так дзяржаву разбяруць! —  
Казала мне маці, —  
Ты, сынок, яе шануй,  
Не пойдзеш жабраваці!

**МІКАЛАЙ ЛУК'ЯНЮК**

# ЗАПРАШЭННЕ Ў МУЗЕЙ

Сардэчна дзякуем рэдакцыі за рубрыку „Музейны фонд", у якой „Ніва", пачынаючы з 28.X.1984 года, пастаянна друкуе спіс усіх ахвяравальнікаў грошай на пабудову Беларускага музея ў Гайнаўцы. Дзякуючы ёй папулярызуецца пабудова нашага Музея і мы знаходзім усё новых ахвяравальнікаў у Польшчы і за мяжою. На сённяшні дзень у ліку ахвяравальнікаў апынуліся ўжо 4 326 чалавек. Усім сардэчна дзякуем, асабліва „Ніве". Мы „Ніву" нават пахвалілі ў амерыканскім часопісе „Беларускі Дайджэст" (н-р 6 ад ліпеня 1994 г.), які надрукаваў наш артыкул аб тых, хто будуе Беларускі музей у Гайнаўцы. Для нас гэта вельмі важная справа, бо наш Музей будуецца ў значнай ступені на грамадскіх пачатках і кожны ахвяравальнік у нас лічыцца. Мы вядзем гаранаровую хроніку Музея, у якую запісваем усіх ахвяравальнікаў. Такім чынам хочам увекавечыць кожнага, хто прычыніўся да пабудовы гайнаўскага Музея, падкрэсліць, што цаглінка кожнага ахвяравальніка была або будзе ўмураваная ў прыгожы будынак нашага Музея. А калі хтосьці нам не верыць, што будынак Музея вялікі і прыгожы, дык запрашаем да нас, у Гайнаўку! У хроніцы маем спецыяльныя старонкі водгукаў нашых гасцей і наведвальнікаў. Запісаў у ёй ужо многа. Не хапае нам толькі паметак прадстаўнікоў „Нівы" і таму сардэчна запрашаем журналістаў і працаўнікоў рэдакцыі ў Гайнаўку, няхай і яны пададуць свой голас у хроніцы Музея ды і далей нязай актыўна дапамагаюць нам рабіць гэту вялікую беларускую справу.

**ЮЛЬЯН КАЗБЯРУК**

Ад рэдакцыі:

З такога запрашэння немагчыма не скарыстаць. Абавязкова яшчэ не раз будзем!

# ВАЛЯЮЦЦА ЗА КЛУБАМ

„Напіўся то і ляжыць", — паўтараюць працавітыя сяляне. Апошнім часам п'яніцы ўжо „не ляжаць" а проста „валяюцца" — найчасцей „за склепам" (магазінам).

У сяле К-кі, што ў Чыжоўскай гміне, калі захочаце адшукаць нейкага кавалера, людзі падкажуць: „Валяецца за клюбом". У самым клубе (прэсы і кніжкі!) спіртное не прадаецца. Затое ў недалёкай краме шырокі асартымент алкагольных напіткаў. Праўда, у магазіне час ад часу не хапае дэнатурату, які вокамгненна знікае з полак. Папулярнасцю тут карыстаюцца таксама кактэйлі на базе спірту „Раял"і „дзінатуры", якія не зусім афіцыйна падрыхтоўваюць сталым кліентам.

Купіўшы напой, кампанія рашучым крокам накіроўваецца за клуб (кніжкі і прэсы!). Там пачынаецца спрэчка на агульнавядомыя ў наваколлі тэмы: за першай паўлітэркай — бізнес і палітыка, далей — засуха, неўраджай, спякота, далей больш інтымныя справы — дзеўкі і палавыя зносіны, сексуальныя анамаліі. А калі ў жылах больш гарэлкі чым крыві, нагрузка энергіі згарае ўжо ў бяздумнай лупцоўцы кожнага з кожным. На шчасце, бойка маланкава спыняецца, бо ўсіх аб'ядноўвае лютая нянавісць да супольнага ворага — юнака на машыне з бельскімі нумарамі. Бяльшчан тут не любяць. Спалоханы хлапчына панічна ўцякае, а аб'яднаная кампанія ідзе піць далей. П'юць тут „назарэз". А калі смага прабудзіць самых цвёрдых, ацалелыя героі падымаюць з калюжын крыві, ванітаў і мачы сваіх параненых субяседнікаў і вядуць іх да лекара.

— Ідзіта кебенімацтэры, — пачуюць яны ў адказ.

**КС. АМ.**

# ХТО ПАЦІКАВІЦЦА?

На чыгуначнай лініі Чаромха—Гайнаўка знаходзіцца прыпынак Дабрывада. Адміністрацыйна ён падлягае начальніку Чаромхаўскай станцыі.

Даўней не было тут пачакальні, а пасажыры чакалі цягніка ў вагоне падшытым ветрам. Дзякуючы жахарам Дабрывады, у грамадскім пачыне быў пабудаваны невялікі, але прыгожы мураваны вакзальны будынак.

Чаромхаўская станцыя дала абсталяванне. Аднак, ужо з першым днём пачаліся праблемы. Будынак пачакальні знаходзіцца за вёскай у чыстым полі. Ніхто за ім не наглядае. Знайшліся асобені, якія пачалі нішчыць будынак. Чаромхаўскім чыгуначнікам не аднойчы прыходзілася ўстаўляць новыя шыбы ў вокнах, маляваць фарбай сцены.

Дабрывадцы казалі, што гэта робіць моладзь, вяртаючыся з танцавальных вечарын, якія адбываюцца ў мясцовым клубе.

Зараз такіх мерапрыемстваў амаль няма. Аднак пачакальню хуліганы далей нішчаць. Як мне стала вядома, у ліпені г.г. трэба было маляваць цэлы будынак унутры. Ад падлогі па столь сцены былі запісаныя ўсякаю ўсячынай. І хто гэта робіць?

Чужы чалавек напэўна не будзе спецыяльна ехаць сюды, каб пакінуць на сцяне дабрывадскай пачакальні нейкі малюнак. На маю думку, гэта работа мясцовых дзецюкоў ды школьнікаў. А мо варта было б пацікавіцца гэтай справай самім жыхарам Дабрывады? Падумайце, паважаныя грамадзяне!

**УЛАДЗІМІР СІДАРУК**

## ГЕРОЙСКІ ЎЧЫНАК БАЦЮШКІ

У гарачае лета людзі, пераважна маладыя, праводзяць час над вадою, бо гэта і здарова і прыемна. Аднак вада часта бывае падманлівай і небяспечнай: колькі яна на той свет людзей забрала — цяжка палічыць. У нас, каля штучнага возера Бахматы, процьма купальшчыкаў. Нядаўна тут амаль не здарылася трагедыя. Было гэта пад вечар; тры дарослыя дзяўчыны з Гайнаўкі адплылі далей ад берага на глыбокую ваду і там адна з іх пачала раптоўна тануць: схапіла яе сутарга. Яе сяброўкі, якія самыя не змаглі дапамагчы, паднялі крык. На беразе быў наш бацюшка, а. Віталій Гаўрылюк, які мігам кінуўся ратаваць дзяўчыну: даплыў да яе, ухапіў за руку, што яшчэ выставала з вады і выцягнуў на бераг. Замест трагедыі была радасць. Наш бацюшка выдатны плывец і спартсмен — малады і дужы ён.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

## З ДРУКУ

# ВАЙНА Ў ЮГАСЛАВІІ

**Немцы дасягнулі найбольшы прагрэс у сваёй экспансіі на Балканы. Чарговы крок — гэта несумненна „Націск на Усход". На практыцы будзе гэта абазначаць эканамічную і палітычную падпарадкаванасць Польшчы і каланізацыю заходніх і паўночных яе абшараў.**

Тры імперыі сапернічалі за панаванне на Балканах: Асманская імперыя (турэцкая), Аўстра-Венгрыя і Расея. Галоўную ролю ў аб'яднанні славян і ў стварэнні каралеўства (якое ў 1929 годзе прыняло назву Югаславія) адыгралі два славянскія народы: сербы і харваты. Каралеўства гэтае неўзабаве стала сузаснавальнікам Лігі Нацый, а пасля II сусветнай вайны — ужо як Югаславія — сузаснавальнікам Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

Паражэнне і падзенне Асманскай і Аўстра-Венгерскай імперый прынеслі паўднёвым славянам вызваленне. Сербы атрымалі незалежнасць раней, ужо ў 1879 годзе ў выніку паражэння Турцыі ў расейска-турэцкай вайне. Харватам і славенцам свабоду прынёс распад Аўстра-Венгрыі пасля I сусветнай вайны. Вынікам вайны было таксама стварэнне згаданага Каралеўства Сербаў і Славенцаў, якое потым перайменавалася на Югаславію.

Югаславія адыграла ролю натуральнага, этнічнага, палітычнага і мілітарнага бар'ера для германскай экспансіі на поўдзень („Drang nach Balkan"), экспансіі, якая была асноўнай мэтай прускай палітыкі, а потым, пасля перамогі над Францыяй у вайне 1870—1871 гадоў, палітыкі Аб'яднанай Нямеччыны.

Нягледзячы на пройгрыш у I сусветнай вайне, Нямеччына не адмовілася ад палітычнай і гаспадарчай экспансіі ў паўднёвым і ў паўднёва-ўсходнім напрамках, уздоўж Дуная да Чорнага мора.

II сусветная вайна адкрыла новую старонку ў гэтай экспансіі. Гітлер замарудзіў сваю кампанію супраць Савецкага Саюза ў 1941 г., каб заатакаваць і перамагчы Югаславію і іншыя балканскія краіны. Гэтае спазненне стала, мабыць, адной з прычын паражэння Нямеччыны на Усходзе і вырашыла аб выніках II сусветнай вайны.

Праводзячы акупацыю Балканаў, нацысцкая Нямечына ажыццяўляла старыя планы „Drang nach Balkan", якія распрацавалі прускія каралі і нямецкія кайзеры. Немцы стварылі тады на развалінах Югаславіі дзве марыянетачныя дзяржавы: Харватыю і Славенію. У межах Харватыі апынуліся Боснія і Герцагавіна (край ад вякоў населены галоўным чынам сербамі), якія ў мінулым ніколі не стварылі сваіх дзяржаўных структур. Славянскія мусульмане на гэтай тэрыторыі з'яўляліся рэлігійнай меншасцю і мірна суіснавалі з пражываючымі там праваслаўнымі сербамі і каталіцкімі харватамі.

### Статус акупаванай краіны не скарыў сербаў

Астатняя тэрыторыя Югаславіі, за выключэннем Харватыі разам з Босніяй і Герцагавінай і Славеніяй, апынулася пад нямецкай акупацыяй. Статус акупаванай краіны не скарыў сербаў. Паднялі яны вырашальную, татальную барацьбу з нямецкім акупантам, ствараючы найбольшыя на Балканах партызанскія ўзброеныя сілы. У гэтай барацьбе сербы пацярпелі аграмадныя страты.

Харвацкія ўсташы і баснійскія мусульмане сталі на баку нацысцкай Нямеччыны, адыгрываючы нясла ўную ролю катаў і знішчаючы падчас гэтай вайны каля 750 000 сербаў, 70 000 яўрэяў і 25 000 цыганоў. Падраздзяленні СС баснійскіх мусульман змагаліся разам з немцамі пад Сталінградам на Волзе.

Усташы і баснійскія мусульмане адыгралі падчас II сусветнай вайны падобную ролю, як мілітарныя і паліцэйскія сілы невялікай Літвы, якія ў супрацоўніцтве з немцамі зліквідавалі звыш 200 000 яўрэяў, палякаў, расейцаў і цыганоў.

### Здраджаныя і пакінутыя

На жаль, паражэнне гітлераўскай Нямеччыны падчас II сусветнай вайны не прынясло свабоды Югаславіі, так як і не прынясло яно вызвалення Польшчы. Абедзве гэтыя дзяржавы былі здраджаны і пакінуты заходнімі саюзнікамі, галоўным чынам Злучанымі Штатамі Амерыкі і Вялікабрытаніяй. Абедзве таксама былі падпарадкаваныя па волі гэтых жа саюзнікаў Савецкаму Саюзу.

Заходнія саюзнікі перадалі ўладу ў Югаславіі харвацкаму камуністу Іосіпу Броз-Ціту. Дыктатура Ціта была накіравана супраць сербаў і сербы, народ праследаваны і знішчаны падчас нямецкай акупацыі, сталі таксама аб'ектам праследаванняў пры камуністычнай уладзе.

Апошнім нанесеным Югаславіі ўдарам было стварэнне пасля смерці Ціта прэзідэнтуры з васьмі чалавек, якая давяла краіну да палітычнага і эканамічнага хаосу.

Была гэта ідэальная сітуацыя для аднаўлення нямецкай экспансіі на поўдзень. Таму, менавіта, першым палітычным актам аб'яднанай Нямеччыны было аднабаковае прызнанне незалежнасці Харватыі і Славеніі ў 1991 годзе. У след за гэтым у 1992 годзе наступіла прызнанне незалежнасці Босніі і Герцагавіны.

Спасылка на балканскую палітыку нацысцкай Нямеччыны поўнасцю тут відавочная. Цяжка сабе ўявіць больш цынічную палітыку — аб'яднанне для Нямеччыны, а развал, раздробленасць і нямецкае, палітычнае і гаспадарчае, панаванне для паўднёвых славян.

Стала відавочным, таксама і для аб'яднанай Нямеччыны, што аб'яўленне незалежнасці Босніі і Герцагавіны давядзе да этнічнага канфлікту. Новастворанай дзяржавай упраўлялі славянскія мусульмане. У распараджэнні мусульман было таксама войска. А складалі яны толькі 43% усяго насельніцтва гэтай краіны. 33% насельніцтва складалі сербы, а 17% — харваты. Так выглядала дэмаграфічная сітуацыя ўжо пасля правядзення этнічнай чысткі. У 60-х гадах нашага стагоддзя мусульмане складалі там толькі каля 30% агульнага насельніцтва, харваты — 23%, а сербы — 44,4%.

Грамадзянская вайна і асабліва жорсткая этнічная чыстка неўзабаве пераўтварылася ў міжнародны канфлікт. **Мусульмане**, якіх моцна падтрымоўваюць ісламскія краіны, між іншым, Турцыя, Іран і Саудаўская Аравія, **імкнуцца стварыць ісламскую рэспубліку, аб чым адкрыта гаворыць ісламскі правадыр Босніі і Герцагавіны Алія Ізятбегавіч:**

**„Ісламскі ўрад мусіць пераняць уладу, калі толькі ў яго распараджэнні будзе неабходная дзеля гэтага маральная і матэрыяльная сіла. Гэта патрэбнае на тым абшары не толькі для знішчэння неісламскіх элементаў, але для стварэння новай ісламскай рэспублікі".**

Харватыя выслала на ахопленую вайной тэрыторыю свой экспедыцыйны корпус з 5 000 чалавек. У корпусе змагаюцца не толькі харваты. У яго саставе апынуліся неанацысцкія дабравольцы з Нямеччыны, Аўстрыі, Вялікабрытаніі, Бельгіі і Венгрыі. Добраахвотнікі з Францыі карыстаюцца падтрымкай арганізацыі „Ordre Nouveau" („Новы парадак") і маюць сувязі з неанацыстамі ў балтыйскіх краінах. Нямеччына выслала ў Харватыю савецкую зброю, перанятую ад Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, між іншым, самалёты МІГ, ракеты САМ і танкі.

### Вяртайцеся, усташы

Вядомы Шыман Візенталь з Вены сітуацыю ў Харватыі падсумаваў на старонках „Corriere della Serra" ад 1 красавіка 1993 года такімі словамі:

**„Тады, калі свет дэманізуе Бялград, у Харватыі адраджаецца фашызм усташаў".**

Урад Харватыі шырока адкрыў свае межы для вяртання на радзіму ўсташаў — фашысцкіх калабарантаў з часоў II сусветнай вайны. Плошчам і вуліцам у Заграбе, сталіцы Харватыі, прысвойваюцца імёны ўсташоўскіх правадыроў. У краіне карыстаюцца папулярнасцю, і яны паўсюдна даступныя, песні ўсташаў, іх атрыбутыка, а таксама карты вялікай Харватыі.

Інспіраваная Нямеччынай актам прызнання незалежнасці і падтрымліваная ў меншай або большай ступені заходнімі дзяржавамі вайна на абшары Босніі і Герцагавіны прадаўжаецца і працягваецца этнічная чыстка. Гэтая вайна — адначасна знакаміты палігон для тэстыравання сучаснай зброі, эльдарада для міжнароднага бізнесу гандляроў зброяй.

Вельмі характэрнае, што сусветная думка, фармаваная заходнімі сродкамі масавай інфармацыі, накіравана ў гэтай вайне супраць сербаў, а не супраць немцаў і іх саюзнікаў. Санкцыі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый накіраваны выключна супраць новай Югаславіі (Сербіі і Чарнагорыі). Толькі Сербія і Чарнагорыя падвяргаюцца блакадзе на вадзе, сушы і ў паветры. Блакіруюцца таксама пастаўкі водным шляхам па Дунаі. Новую Югаславію выключылі з Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Паслядоўнасці гэтага нясе нявіннае насельніцтва, прымушанае жыць на біялагічным дне экзістэнцыі. У самой Босніі і Герцагавіне толькі сербскае насельніцтва жыве пад пагрозай авіяцыйных бамбардзіровак, аб якіх вырашаюць прадстаўнікі Аб'яднаных Нацый. (...)

**АЛЯКСАНДР ДАВІДОВІЧ**
**(„Gazeta Polska", 4.08.1994 г.)**

# З ГІСТОРЫІ ГАРАДЗЕНСКАГА КНЯСТВА

Каб лепш зразумець сённяшняе, трэба ўважліва зазіраць ва ўчарашняе — такая ўжо адвечная праўда. Таму неабходна значна аддаліцца ад сучаснасці і ў часе і на адлегласць ды зазірнуць, што дзеялася на тэрыторыі цяперашняй Беласточчыны і суседніх з ёю зямель восемсот год таму назад. Перш за ўсё неабходна заглянуць у даўніну тае тэрыторыі, дзе Нёман размашыстай дугою паварочвае сваю плынь з заходняга кірунку на паўночны. Тут у раннім сярэднявеччы паўстаў значны вайсковы, гаспадарчы і культурны цэнтр на сумежжы зямель беларускіх плямёнаў дрыгавічоў і крывічоў — Горадня (у летапісах: Городень, Городна, Городня). Пад яго ўздзеяннем пазней развіліся такія асродкі як Ваўкавыск (Волковыеск) на рэчцы Ваўкавыі, Мсцібогу на рэчцы Альшанцы, Гарадок на Супраслі, Свіслач на Свіслачы, — піша ў „Беларускім календары" Мікола Гайдук.

Гарадзенскае княства ўтварылася ў канцы IX — пачатку X стагоддзяў. Яго паўднёва-заходняя частка пачыналася на Беласточчыне ад ракі Нарвы і канчалася на Аўгустоўскім паазер'і. У ім бурліла жыццё: гусцела насельніцтва, дужэлі крэпасці, пры іх разрасталіся рамесніцкія пасады, развівалася сельская гаспадарка, квітнеў мясцовы і асабліва дальнасяжны гандаль. Словам, Гарадзенскае княства і яго сталіца Гародня ў раннім сярэднявеччы было важным вайсковым і гаспадарчым асяродкам, падлеглым Полацку. Водны шлях на Нёмане і яго прытоках з глыбінь дрыгавіцкіх і крывіцкіх зямель вёў у Балтыйскае мора — на поўнач, на поўдзень па нёманскіх прытоках, валокамі ў прытокі Дняпра ішоў ён у Чорнае мора. У Гародні гэты шлях крыжаваўся з рухлівым старадаўнім трактам з Заходняй на Усходнюю і Паўночна-Усходнюю Еўропу і ў Сярэднюю Азію.

Асноўным насельніцтвам у Гарадзенскім княстве былі дрыгавічы і крывічы, з поўначы прыбывалі ў яго яцвягі і літоўцы, уздоўж ракі Бобры (Бебжы) з захаду сяліліся мазаўшане. Тут неблагія глебы, шмат рознай сыравіны — балотнай руды, розных рудаў, гліны, драўніны, каменю, спрыяльныя варункі для жывёлагадоўлі, бортніцтва, рыбнай лоўлі, паляўніцтва. Людзей прыцягвала таксама спакойнае жыццё, якое абяспечвала магутная крэпасць у Гародні і даволі густая сетка іншых умацаванняў, асабліва на рубяжах княства.

Гарадзенскае княства, не толькі дзякуючы свайму палажэнню на адлеглай паўночна-заходняй ускраіне Усходняй Славяншчыны, але таксама і ўласнай вайсковай сіле ды прыязным сувязям з паўночнымі суседзямі — яцвягамі і літоўцамі, доўга захоўвала сваю незалежнасць пасля здабыцця князем Уладзімірам у 976 г. Полацка, а ў 978 г. — Кіева. Сюды, на Гарадзеншчыну, адыходзілі з Полацкай зямлі тыя, хто не пажадаў скарыцца вялікаму князю кіеўскаму.

Пра гарадзенскую апазіцыю добра ведаў Уладзімір, і як толькі ў 981 годзе падпарадкаваў сваёй уладзе паўднёва-заходнія ўскраіны Усходняй Славяншчыны, у тым ліку і гэтак званыя Чэрвеньскія гарады, у 983 годзе рушыў на паўночны захад. Прывярнуў уладу падлеглага яму Тураўскага княства над Бярэсцем і Дарагічынам і падаўся на поўнач. Гарадзенцы забяспечыліся падтрымкай яцвягаў і таму, мабыць, Уладзімір, перш-наперш ударыў па іх як саюзніках Гарадзенскага княства і гэты факт трапіў у „Аповесць мінулых часоў" запісам пад 983 годам: „Иде Володимер на ятвяги, и взя землю их". Затым дружыны вялікага князя кіеўскага заатакавалі Гародню. Сілы былі няроўныя, і з гарадзенскай драўлянай крэпасці асталіся адны дымячыя папялішчы, якраз тыя паклады попелу і вугалю, на якія цяпер са здзіўленнем натыкаюцца археолагі ды акрэсліваюць іх на X стагоддзе. Такім чынам гарадзенскае княства было скорана і далучана да Тураўскага княства. Падпарадкаваўшы сваёй уладзе яцвягаў, гарадзенцаў ды часткі літоўцаў, Уладзімір дабіўся свабоднага выхаду па Нёмане ў Балтыйскае мора. Гэта мела аграмаднае значэнне, асабліва для тураўскага княства.

Аднак плён Уладзіміравых заваяванняў не быў трывалы. Ужо пры першым жа ўнутраным крызісе ў тагачаснай Кіеўскай дзяржаве, які наступіў пасля смерці гэтага князя (1015 г.), яцвягі выйшлі з-пад залежнасці ад яе і перакрылі нёманскі водны шлях у Балтыку, а Гарадзенскае княства, мабыць, прывярнуў у залежнасць ад Полацка яго князь Брачыслаў Усяславіч. Гэта разам з іншымі намаганнямі полацкага князя пашырыць свае ўладанні, падліло алею ў агонь вайны, якая ўспыхнула ў 1021 г. паміж кіеўскім Яраславам Мудрым і полацкім Брачыславам. Вайна закончылася ў карысць Полацка, а ўдзел Брачыслававых дружын у няўдалых паходах Яраслава Мудрага супраць яцвягаў у 1038 г. і Мазоўша ў 1041 г. умацавалі ўладу Полацка на Гарадзеншчыне. Але на пачатку XII стагоддзя пасля смерці Брачыслававага сына князя Усяслава (1101 г.), наступіў хуткі распад Полацкай дзяржавы на дробныя княствы і тады, мабыць, Гарадзеншчына зноў абасабляецца ў самастойнае княства.

Калі на вялікакняжацкі пасад узышоў Уладзімір Манамах (1113 г.) і ўзяў у сваё ўладанне Тураўскае княства, то адразу паклапаціўся згуртаваць свае сілы супраць раздробленай на слабыя ўдзельныя княствы Полацкай зямлі, між іншым, як сам ён піша ў сваім „Павучэнні": „Увосень 1084 г.

*Працяг на стар. 8*

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 416

Рэдактар: Сакрат Яновіч


*МІХАСЬ АНДРАСЮК*

**падплыванне**

капля за капляй падплываю
да берагоў каменных і маўклівых
а за плячыма гарызонт
складае крылы
не адляцець
не адляцець яму ў вырай
і не аставіць тут мяне
ў бязважкіх водах
ён мой
ён мой камрад і вораг
сторож дашчэнту справядлівы
не аддзяліць нас ад сябе
ніякім дагаворам
цела маё ягоным словам
у сон апранае адвячорак
за жэстам жэст пераліваю сябе ў іней
у холад у абняцці тайных сцежак
у калыханні незаўважных калідораў
дзе ўсе ідуць
і дзе ніхто не гіне

*ГАЛЕНА АНІШЭЎСКАЯ*

**Лета**

Цвіце высокая тавула — лек на рэўматызм.
Бліжэй, на поплаве, — крываўнік белы.
Авёс зялёны штосьці шапаціць
І цешыцца, што ўсё ящчэ нясцелы.
Пакуль касілка ўкоціцца сюды,
Закопціць дымам на палетку,
Пацешыцца кароценькім жыццём
Паспее ўсё, што нарадзілася ўлетку:
— Зялёны конік — страказа,
Кузачка ў кропкі, жоўты матылёк,
Чарвяк у палоскі з рожкамі двума
І чмель, што ўбачыўшы мяне,
Ад сполаху замоўк.
А колькі красак у траве!
Назваць іменаў іх, на жаль, не ўмею;
Ледзь вочы павярнула ўбок,
А там загоны жыта спеюць.
Зачараваная стаю і думка ў галаве —
Шкада, што хутка праміне ўсё гэта.
Нідзе так, як у полі і ў траве,
Не ўбачыш, як бушуе лета.

*Ліпень'94.*

*У пятую гадавіну смерці*

*ВЕСЛАЎ КАЗАНЭЦКІ*

* * *

Пахам тваіх валос як вецер загуляў,
Праду сівыя пасмы — наша бабіна лета.
Жыве ва мне сваволькік, што ўсмешку тваю ўкраў,
Прадаючы таемна за злы шэлег свету.

Дарога прада мной ідзе раптоўна ў глум,
Мяце абломкі вецер згушчаным туманам.
Толькі твая любоў смяецца — калі сум,
Толькі твая любоў прабачыць мне падманы.

*Пяскі, 2—4 сакавіка 1987*

Пераклаў **ВІКТАР ШВЕД**

*ВІКТАР ВАРАШЫЛЬСКІ*

**Начны прыезд у Фергану**

Дарожнай аказіяй, ноччу, безбілетна,
апынуўся ў пахах шаўкоўніц, персікаў.
У тую цемрадзь дасвітальную беспаваротна
акунуўшыся. Я мовы яе не ведаў ні навыкаў.

Усё роўна, бы ў вяках мінулых дзён пабачыў
поблікі ваконцаў млявыя, зорак згасанне,
няскупасць душы жабрака, жаўнераў безудачных,
і саладосць сканчэння ночы ў Фергане.

Машына запынялася. Тут усё, як даўней:
пехацінец на пропуску карпее пад парогам,
не маючы адвагі пастукацца. Дзеля якіх надзей? —
ажно брэх у падворышчы з сонца ўзыходам.

А й я сюды чаго? Хто чакае мяне? Мая
дарога запыленая, бы лёс валакіты.
Зразумеў: адышло майго паўжыцця
кудысьці ў пустое, на нешта нязбытнае.

На прыгажосць тры разы мне шанцавала,
можа быць, што і не... Хвілю абганяла хвіля.
Машына ж імчала. Сувязі ірваліся немацавалыя,
от падарожныя, бы колерная сімпатыя матыля.

Дасядаліся ў машыну ткачыхі шаўку, і адразу
начное поўнілася маладым іх шчабятаннем.
... Я ж валокся за імі ў таптаніне базараў,
Ферганою неспатолены, жаданнем, ажываннем.

Якое блюзнерства раптам! Вершы пішу восль турэцкія.
Наядаюся ды напіваюся. Старгоўваю нешта ў каго.
Хаджу, то ў духоўніках, то ў злачынцах, то ў бесталачы.
Пакуль не прачынаюся ў світанак — і зноў я нямко.

З шафёрам рубель мне перакладчык, і ўсё,
або срэбная таньга — і такое бяды.
Але шаўкоўніца? Але дзеўкі тыя? А жыццё?
Асталявацца? З'ехаць? Кудою і куды?

Пераклаў **САКРАТ ЯНОВІЧ**



Рыс. Міколы Давідзюка

*ЗОСЯ САЧКО*

* * *

осэнь нэ прыходіт
доўгэ ліэто кладэ зэлёны тіэнь

батькі в рычцы мыют ногі
— вода стоіт

хлопці коні поят
чэрпают — нэ вычэрпают

в сіэтку павук злапаў час

можэ удасьця нам як-нэбудь
між сьвіэтом а сьвіэтлом

*1991 г.*

*ІАГАН ВОЛЬФГАНГ ГЁТЭ (1749—1832)*

**Надзея**

Давядзі плод рук сагрэтых,
Шчасце, да апошняй мэты!
Божа, не дай страціць сілы!
Не пустыя ж гэта мары:
Бачу шчодры я ўжо дары
У гэтым садзе з прутоў мілых.

*ЙОЗЭФ ФОН ЭЙХЕНДОРФ (1788—1857)*

**Вечар**

Чалавечы гоман змоўк:
У бестурботных быццам марах
Дрэвы ўсе спачылі ў хмарах;
Бліскам ірвануўся шчоўк,
Што здаўна вандруе цьмяна
У беспрытульным сэрцы з ранай,
Каб тугі развеяць шоўк.

З нямецкай мовы пераклаў **ЮРЫ ТРАЧУК**

*САКРАТ ЯНОВІЧ*

## Мроі Прошапана

Агатка, пажылая жонка Прошапана, зацяжарала ў памятную сушу, калі людзі ледзь маячылі ўжо ад знямогі. Прошапан — нсяк няўдала — пахвальваўся гэтым і, каб узвысіцца над недарэчнымі халопамі, штоpанку гаіўся да самое сінечы скуры на барадзе. І хоць дзецярні Прошапанам хапала і без таго, і бяды ад яе, але ў той раз адбывалася ў іх нешта ўсё ж радаснае... Яны, пакуль і самі, добра не ведалі, што менавіта. Агатка не адразу пасвятлела на твары, відаць, падумаўшы пра свае пад пяцьдзесят, у якія жанчына не павінна нараджаць; як вядома, пераўтвараецца тады яна ў бабу (мужчына ж горбіцца ў шэсцьдзесят).

Бог, прытым, не скупіўся Прошапанам на ўдачу. Дарослыя сыны, як угледзелі маці зноў з жыватом, шпарка і багата пажаніліся з забеластоцкімі мазурыцамі. Гэта далося ім досыць проста, бо мазавецкім гаплючкам імпанавалі — ліцьвінскае пароды — мужчыніскі, бамбізы пад бэлькі ў столі ў мухаройных халупах. Не адно ў якасці парабкуючых прымакоў на тых гектарных раўнінах; паказалі сябе ў пасцелі і ўстойлівымі дубаснікамі, непараўнанымі з тутэйшымі задыханымі заморанікамі.

Прошапанок, тым часам, ажно падспеўваў ад задаволенасці, пераважна, сяк-так чуваныя ў маладосць легіянерскія паходныя песні або і бальшавіцкую „Кацюшу", калі не было каго дома са сваіх палякаў (Агатка ўпалоханa супыняла: У пекле з маскалямі згарыш!).

Прошапан не быў бы Прошапанам, калі б ад такога сваяцтва не пачуваўся ён у сёмым небе! А яшчэ і нічога яму не каштавалі тыя раптоўныя вяселле за вяселлем. Ці ж выдаткамі назавеш гэта тое, што надаў быў хлопцам хатняга дабра, вышныпаранага на пыльным гарышчы, у пасажных куфрах? Прысадзістыя нявесткі з фанабэрлівых жа хутароў абдорылі яго „эквівалентамі"; навюсенькім касцюмам з амерыканскага барахла каторасьці паддабрылася. А піў-напіваўся на „актах вэсэльных", мала не выпрасціўшыся пад плотам у ванітаванне! Моцна весяліўся Прошапан! Крыху з потайнай згрызотаю: спасланыя лёсам сваты і сваньки чамусьці паказаліся малютамі, бы японцы, а ўжо ж клубастая Агатка рассядалася сярод іх шырокакрылай квактухаю.

Гадаваліся ў Прошапанаў, таксама, і дзяўчаткі, даволі лыткастыя падлеткі. Трэба ж упільнаваць курачкі, каб кавалерка не схапіла за чуб зіркасцейшую якую. Потым будзе не дапытацца, хто рагатусе насаладзіў... З дочкамі вечны клопат. Жанатыя браты, на шчасце, не забудуць пра сясцёр: куртатаму мазуру толькі давай русінскага гамата!

Камбінаваў Прошапан самым розумам:: бацькі бацькамі і на тое яны бацькі, каб сысці калі-небудзь у магілу, пакінуўшы ўсенька нашчадкам сваім. Значыць: Прошапан і Прошапановічы з Прошапановічанкамі раней або пазней накладуць рукі на тамтую шляхцюкоўшчыну — з умураванымі хлявіскамі, стадоламі на два такі, спружыназвоннымі машынамі палявымі ў шопах, трактарамі нямецкае маркі, уробленымі палеткамі пад пшаніцу і цукровыя буракі, сасновікамі на ўзгорках, з якіх не адзін дворык з пеўнікамі ў шчытах адгрукацьме. Прошапан аж дубянеў, калі занадта надумаў думанае: жарты, такія магчымасці!

Яксьці не прыходзіла яму ў галаву, што і сам ён некалі памрэ. Шчаслівыя або зайздрослівыя не дапускаюць да сябе смерці.

Прошапан заеўся быў і тыднямі не браўся за чарку, збіраючы грошы, вось, на атлас анатоміі жанчыны. Парфумная беластоцкая курва падманула яго набыць і атлас мужчыны, асабліва з дадаткам палавых органаў ды іхных папулярных хвароб. Ен, бач ты яго, пажадаў навукова даведацца пра ўмовы напаткаўшае цяпер шанцоўнасці. Наглядзеўшыся каляровых кішак ды страўніка, усяго таго мясніцкага балагану ў целе, узяло Прошапана бяссонне. Не адыходзілі ад вачэй і тыя органы, то ў выглядзе рэзанага кімсьці сальцісончыка, то накшталт трэснутага ад пераспеласці гарбуза... Ужо ж насохся ад уздзіву, што людзіна так быдлячая!

Прошапану далей рупіла чагосьці. Закінуўшы дакторскія малюнкі ў апухі, каб Агатка не пабачыла нутраныя жудасці або дзяўчыняты не ўведалі пра венерычныя фокусы, ён пацішэў у чаканні родаў у бабы. Гэта яму нясцерпна доўжылася, і Прошапан час-часам даставаў назад медычныя фаліянты, сцішна зашыўшыся з імі ў закутак пад крокваміі, пакуль мышы не паслі, сцерабілі перш вокладкі, а затым і непрынадную сярэдзіну з ілюстрацыйнымі бэбахамі. Яго энергія абярнулася на дачок: чаму яны памалу растуць?! Ен прыемна ўяўляў іх сабе ў вэлюмах, гаспадынямі ў гербавых радзінах, радзіцелькамі патомных паноў, далікатнымі і белатварымі, без мужыцкага загару на шчочках, плячах і грудзях... Замілаванасць Агаткаю слабела, то мацавела ў ім.

Зразумеў Прошапан, што настарацца дзяцей — гэта залаты інтарэс! Палову гміны можна імі пасля абсадзіць і войту ў сакратаркі каторую свежарослую харашуню падбухторыць, каб падаткі меншыя прысылаў плаціць. Але, на жаль, Агатка не здолее больш. Няма іншае рады, як замену ёй шукаць? Прошапан спачатку жахаўся ад такога здогаду, бо, ведаў: Бог не пахваліць і смехаты ў народзе начаўпецца, што хоць ты ў сабакі вочы пазычай! Тым не менш мазгаўня працавала і выйсце як быццам знайшлося: немаўлятак падкідаць будуць Агатцы падкупленыя распусніцы, а ёй столькі тае работы, што прыкідвацца аднова пузатай... Падлічыў кошт, параіўся са знаёмым лайдаком, і план гатовы.

Калі Прошапан растлумачыў усё Агатцы, дакладна і дэталёва, з падрахункамі, яна ні то засмяялася, ні то заплакала. Пасядзеўшы ў задуменні за сталом у пакоі, куды не пускалі смургеляў, нічога не сказаўшы ўгрэла свайму Прошапану ў гладкую ды пахкую ягоную морду, ажно зазіхацела вялізнай лямпачкаю і задраў ён доўгія ногі, мала-веля не чапіўшы ботам нізкую дзеля аздобы жырандоль.

— Яшчэ раз такое мне скажаш, яйца табе выражу, — пачуў ад жонкі ціхую праўду (каб дзятва не пачула).

Прошапан неўразуменна матлянуў булавою, стрыжанай пад свістуноў з рок-гуртоў, і аблёг на падлозе з квяцістым дыванoм, крыху нагадваючы сабою дбайна дагледжанага нябожчыка, які павінен быў яшчэ жыць і жыць.

І так, радасць у Прошапана аказалася нядоўгай. Ён і не вельмі смуціўся, але кінуў хадзіць выгаленым штодзень і паафіцэрску выпрастаным. Вярнуўся ў мужыцтва ды не настолькі, каб у нечым не вырозніваца з натоўпу. Сыноў засмактала, спападнае ім, багацце; дочкі падрасталі непрабачальна марудна; Агатка цяжарала ўсяго шосты месяц...

Прошапан, аднак жа, нешта апланоўваў, не здаваўся, але заўзята маўчаў, каратаючы дзень да вечара ў гаспадарцы.

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Дарагія мае Чытачы!

Вітаю Вас у першым вераснёўскім сваім нумары! Засумавала я за Вамі, за ўсім Вашым класам... Вельмі я рада, што не забывалі Вы мяне на канікулах, шчыра дзякую аўтарам лістоў.

У мяне ўсё добра. Праўда — нядрэнна нам быць вось тут, на сярэдзіне „Нівы"? **Нашыя** дзве незалежныя старонкі аж просяцца, каб хутчэй даць ім новыя тэксты, цікавыя здымкі, асабліва ад Вас!

Расказвайце хуценька, як Вы адпачывалі, дзе былі, што пабачылі, чым захапіліся... Напішыце, пахваліцеся ці панаракайце крыху — усё ж у жыцці бывае. Раскрыйце нам свае новыя планы і намеры, раскажыце, што новага ў Вашым класе, школе, вёсцы, на Вашай вуліцы, у Вашым сэрцы... Цікава будзе пра гэта даведацца Вашым калегам, настаўнікам, сябрам, суседзям... Усе Вашыя лісты буду друкаваць з вялікай радасцю!

**Ваша „ЗОРКА"**



*Прывітанне вучням!* **Фота Юркі Паплаўскага**

## ПАЦЕРКА

Сарока знайшла на дарозе пацерку і паляцела да ракі — сяброўкам хваліцца.

— Ах, якая пацерка, — закрычалі тыя. — Давай падзелім!

І сталі адбіраць пацерку. Пакуль у раку не ўкацілі. А тут якраз на рачным дне Рак сунецца. Сарокі — да яго:

— Зрабі добрую справу, дастань нашу пацерку!

Вырачыў Рак вочы, убачыў прапажу, а ўзяць кляшчоткамі не можа. Работа ж тонкая, ювелірная!

— Сваіх клопатаў хапае! — узлаваўся Рак і пасунуўся далей.

А тут якраз Бабёр бервяно тралюе. Сарокі — да яго.

— Выручай! Пацерка ў ваду ўпала...

Бабёр даў нырца, але згубы тае і не ўбачыў нават.

А тут якраз Чапля з броду ляціць. Сарокі — да яе:

— Пацерку з вірка не зможам вылавіць!..

Чапля пашарыла дзюбаю па дне, напусціла бурбалак і таксама сказала:

— Нічога не выйдзе. Шыя закароткая.

А тут якраз Аляпка бяжыць — шэранькая, маленькая птушачка. Сарокі да яе:

— Мо ты, Аляпка, дапаможаш?

Аляпка як бегла плёсам, так і пабегла, толькі цяпер пад ваду. Крутанулася там, на рачным дне, гэтак жа хуценька выскачыла назад і паклала знаходку на пясок. Сарокі ўбачылі, што згуба знайшлася, шухнулі на бераг і зноў сталі адна ў адной адбіраць пацерку. Валтузня. Крык. Да гэтай пары ніяк тую пацерку падзяліць не могуць.

**ЯРАСЛАЎ ПАРХУТА**

Нашы гульні

## ФАНТЫ

Мэта гульні: Практыкаваць дзяцей у правільным падборы слоў, уменні лагічна ставіць пытанні, хутка і правільна адказваць, пазбягаючы ўжывання забароненых слоў.

Змест: Усе ўдзельнікі гульні садзяцца на крэслы, якія пастаўлены ў рад ці кола. Па жэрабю або лічылцы выбіраюць вядучага. Ён абыходзіць усіх гульцоў, спыняецца перад адным з іх і гаворыць:

*Бабуля вам прысылае сто рублёў.*
*Што хочаце, тое купіце,*
*Чорнага і белага не бярыце,*
*„Так" і „не" не гаварыце!*

Пасля гэтага ён пачынае весці размову з гульцом, задае яму пытанні, а той адказвае хутка, надоўга не задумоўваючыся. На пытанні ён можа адказаць па-рознаму, толькі не называць слоў „чорнае", „белае", „так", „не". Хто памыліцца, дае вядучаму фант. Вядучы стараецца, каб той, каму задаюць пытанні, вымавіў хаця б адно з забароненых слоў. Ідзе прыкладна такая размова:

— Якая на табе кашуля?

— Сіняя.

— Якая ж яна сіняя? Яна белая!

Дзіця хоча сказаць „не", але ўспамінае, што гэта слова нельга гаварыць.

— Яна зялёная!

— Якая зялёная? Яна ж чорная!

— Блакітная.

— Вось так — блакітная? Яна ж белая!

І тут дзіця памыляецца. „Не, не белая!" — пярэчыць гулец і дае два фанты за два забароненыя словы.

Так вядучы абыходзіць усіх гульцоў. Адны не памыляюцца доўга, другія памыляюцца адразу. Пасля гульні пачынаецца выкуп фантаў. Гэта ўжо новая, таксама вясёлая гульня.

13

### САБАКІ МАЙГО МАЛЕНСТВА
(1)

Ноч у вагоне перабывалася з дакорамі самому сабе. Дома — бяда, а ты едзеш некуды. Аднак паездкі нельга было адкладаць, усё дамоўлена загадзя, людзі чакаюць.

Сну — ані блізка! Шчымела трывога, здавалася, я перажываў ужо нешта падобнае і менавіта звязанае з сабакам. Нарэшце, успомніў — Урсон! — гэта быў мой першы гадаванец. Разам з ім прыгадаліся і ўсе іншыя сабакі майго маленства.

У бліжнім панскім двары была цэлая гайня, дзесяцера, калі не больш сабак. Праход і праезд каля двара быў наглуха перакрыты. У выпадку парушэння заба- роненай зоны высыпалі ўсе, лупілі з людзей порткі, даставалі за морду каня, ледзь не ўскоквалі ў драбіны. А не дай божа перацягнуць каторага пужкаю: брэх ператвараўся ў енк і гвалт.

Трымалі ж іх гаспадары, каб пільнавалі саду ад начлежнікаў, сад быў вялікі і кепска дагледжаны, аднак багаты на славутыя слуцкія бэры і антонаўкі.

Пасля рэвалюцыі мае сяльчане, прусцы, падзялілі маёнтак, размеркавалі зямлю на душы. Саду і самых паноў не зачапілі, яны з'ехалі, здаецца, у Польшчу. Асірацелыя сабакі пагаўкалі-пагаўкалі дый папрыставалі жыць да хутаранцаў — вартаўнікамі.

...лой ваяўнічасці і следу не значна: махала, як магла ўпрошвальна, укарочаным хвастом, падымала смутныя вочы на майго бацьку. Поблізу стаялі, нібы падтрымлівалі нямую просьбу, два нашыя сабакі, Саід з Ігманам.

Бацька вагаўся: пакідаць ці не? І сваіх жа вартаўнікоў хапае, паранай бульбы з'ядаюць цэбар, за дзве свінні. Аднак, што рабіць — стварэнне жывое, прытулку няма, а чым яно вінавата? Бацька вынес з хаты скарынку, кінуў

## ДОБРЫ ХЛОПЕЦ ДЗІК

Прыбілася і да нашых бацькоў сучка. Калматая, хвалістага чорнага воласу, з рудымі лапамі — курта, хвост ёй упалавінілі няйначай за недастойныя паводзіны: шастала, дзе не дазволена, таму і зарабіла імя — Шаста. Яна-то і была старэйшая над сабачай дворняй, завадатарка, першая ўздымала галас, кідалася рваць кожнага, у каго была патрэба прачыніць брамку на панскую сядзібу, і даўжэй за ўсіх аббрэхвала сялянскія вазы з сенам і дрыўмі.

Шаста з'явілася ў нас недзе пад вечар. Сядзела пры ганку, рахманая, бы-

Шасце і сказаў: „Жыві!".

І Шаста засталася. Жыла ў нас доўга, ні звяглівасці, ні злосці не выказвала, за возам бегчы не ўвязвалася, адно што прыводзіла шмат шчанюкоў.

Аднаго з яе сыноў, чорнага таўсмаціка, я адстаяў — не аддалі ў чужыя рукі. І выгадаваў, падняў на ногі слаўнага прыгажуна з гладкай бліскучай поўсцю. Гэта быў „мой" сабака ў поўным сэнсе слова: не слухаў нікога іншага, не адступаў ад мяне і на хвіліну, за тое і меў смачнейшыя кавалкі. Мне — апошняму ў сям'і — пападала больш смачкаў, я сумленна дзяліўся імі з сабакам. Я ж яго і ахрысціў: Урсон, запазычыўшы імя з нейкай дзіцячай кніжкі.

Маці збіралася ў Капыль, брала і мяне з сабою, Урсон затрывожыўся і не даўся ўзяць на ланцуг, тады яго прымкнулі ў свіронак. Ад'ехаліся мы вёсак за дзве, не болей, і раптам перад канём забег, невядома як вырваўшыся, сабака, махнуў хвастом мне і пафураваў наперадзе. Не варочацца ж назад праз дурня, хай бяжыць.

Аднак лепш бы вярнуліся. На выездзе з даўжэзнае вёскі Ванелевічы, дзе мы спыніліся нечага купіць у сельпо, агледзеліся, што сабакі пры возе няма. Рушылі далей, думалася, дагоніць. Кіламетраў праз тры ўсё ж вярнуліся, маці ехала павольнай ступою, а я ішоў па вуліцы, гукаў, свістаў, нават забягаў у двары. Так і не дазваўся. Відаць, нехта моцна навязаў у такім глухім спраце, што і голасу нельга падаць, дый ніхто не пачуе...

*(працяг у наступным нумары)*

**МАКСІМ ЛУЖАНІН**

Беларускія музычныя інструменты

# ЦЫМБАЛЫ

Цымбалы — струнны ўдарны інструмент. Мае плоскі драўляны рэзанатарны корпус трапецападобнай формы. На ім нацягнуты стальныя струны ад 3 да 8 ў хоры („ў пасме"), якія падзяляюцца падстаўкай на два няроўныя адрэзкі. Іграюць на цымбалах драўлянымі палачкамі („малаткамі", „кручкамі"). Гучанне цымбалаў моцнае, рэзкае, гулкае, звонкае. Пасля ўдара малаточкам струны не заглушваюцца і даволі доўга рэзаніруюць. Адзін гук накладваецца на другі, таму беларускія цымбалы „гудуць". У час ігры народныя музыканты кладуць інструмент на стол, на калені або падвешваюць на рамяні цераз плячо.

Цымбалы вядомыя ў Беларусі з XVI стагоддзя. Выкарыстоўваюцца звычайна ў ансамблі з іншымі інструментамі — скрыпкай, бубнам, кларнетам, карынкай, жалейкай, гармонікам, часам уключаюцца ў састаў вялікіх капелаў. У Дзяржынскім і Вілейскім раёнах Мінскай вобласці на цымбалах зрэдку іграюць сола. У народным побыце гэты інструмент суправаджае вяселлі, танцы, абрады.

У сучаснасці цымбалы набылі новае жыццё. Яны ўдасканалены, створаны іх разнавіднасці — прымы, альт-тэнар, бас і кантрабас. Сфарміравалася беларуская прафесійная выканаўчая школа. Сям'я цымбалаў склала аснову Акадэмічнага дзяржаўнага народнага аркестра Беларусі, шматлікіх вучэбных і самадзейных музычных калектываў.

## РОГ

Рог — старажытны народны духавы амбушурны музычны інструмент, які выкарыстоўваецца спрадвеку для падачы сігналаў у пастухоўскім, ваенным і паляўнічым побыце. Вырабляецца з пустацелых рагоў жывёлы або выгнутага ў форме рога кавалка дрэва. Ігравых адтулін не мае. Найгрышы на рогу — імправізацыйныя папеўкі, прасцейшыя танцавальныя і песенныя мелодыі, якія заснаваны на гуках натуральнага гукарада. У некаторых вёсках Беларусі рог можна пачуць і сёння.

**Н. ЯКАНЮК**

*СТАНІСЛАЎ ВАЛОДЗЬКА*

**У ДЗІЦЯЧЫМ САДЗЕ**

— Мы на прагулку не хадзілі,
Мы сёння саджанцы садзілі
За радам рад.
Быў кожны рад:
„Няхай хутчэй расце наш сад!"
„Пакуль ён — дрэў дзіцячых садзік" —
Як добра тут заўважыў Вадзік.

**РЫБАК**

— Вудзіць рыбу не люблю.
Толькі рыбу я лаўлю
Лыжкай з юшкі.
Тут таксама
Я рыбак. —
Смяецца мама.

**ДЗЯДЗЯ МАГ**

Дзядзя маг
Глытацель шпаг
Жартаваў часамі так:
— Надаела шпагі есці.
Лепей еў бы я спагеці.

**КОЦІК**

Бяжыць коцік,
Дрыжыць хвосцік:
Вельмі коцяа
Есці хоча.

**ВАРВАРА**

— Як ты, цётачка Варвара,
Столькі нітачак напрала?
— Дзе ты, цётачка Варвара,
Столькі яблычкаў нарвала?
— Дзе ты, цётачка Варвара,
Столькі ягадак набрала?..

— Го! Ты, дзетачка мая,
Больш цікаўная, чым я!

# ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

У заапарку хлопчык пытаецца ў бацькі:

— А чаму ў лебедзя шыя такая доўгая?

— Каб не патануць, калі павысіцца ўзровень вады.

* * *

Маленькаму хлопчыку загадалі загадку:

— У Ноя былі тры сыны: Сім, Хам і Іафет... Хто быў іх бацька?

— А што? Хіба ў старога Ноя былі сумненні наконт гэтага? — здзівіўся Ясь.

* * *

Бацька з сынам, ідучы раненька на касьбу, знайшлі кашалёк з грашыма.

— Вось бачыш, сынок: хто рана ўстае, таму і Бог дае!

— А той, хто згубіў гэтыя грошы, устаў яшчэ раней, праўда, тата?..

* * *

— Мама, у цябе ўжо некалькі сівых валасоў! — заўважыў малы Тадзік.

— Бацькі заўсёды сівеюць, калі іх не слухаюцца дзеці.

Тадзік задамаўся:

— Цяпер я разумею, чаму бабуля зусім пасівела!

**Янка Ляўкоўскі**



*Вучні з Сакоў на перапынкукарыстаюцца камп'ютэрамі.*
**Фота Ганны Кандрацюк**

Помнікі архітэктуры Беларусі

# НАВАГРАДСКІ ЗАМАК



*Руіны Наваградскага замка.*
**Фота Міры Лукшы**

Замак узнік на месцы старажытнага дзядзінца з драўлянымі сценамі.

Старажытная каменная вежа, накшталт Камянецкай, з'явілася ў Наваградскім замку сярод драўляных гародняў у другой палове XIII стагоддзя. Яна мела чатырохвугольную ў плане форму, якая набліжалася да квадрата, і высокі падмурак, зроблены з вялікіх — да 1 метра і больш — камянёў. У канцы XIV стагоддзя гэтая вежа была перароблена, стала цаглянай і пазней атрымала назву Шчытоўка.

Неўзабаве пасля будаўніцтва Шчытоўкі сталі ўзводзіцца іншыя мураваныя вежы і муры замка. Спачатку з усходу ўзвялі яшчэ тры вежы і злучылі іх мураванымі сценамі. Да нашых часоў захаваліся рэшткі Касцельнай вежы і Малой брамы. Вежы былі падобныя на Шчытоўку, але ніжэйшыя і мелі тры паверхні.

Дзесьці ў XIV стагоддзі ля падэшвы замка збудавана мураваная Калодзежная вежа. Справа ў тым, што вады ў замку не было і толькі на ўсходнім схіле замкавай гары білі моцныя крыніцы. Над адной з іх і паставілі Калодзежную вежу.

Паступова ўсе драўляныя гародні змянілі мураваныя сцены. Таксама ў пачатку XVI стагоддзя ля паўднёва-ўсходняга схілу гары пабудавалі яшчэ дзве вежы, якія злучылі каменнымі сценамі. Разам з Калодзежнай гэтыя вежы стварылі своеасаблівае дадатковае ўмацаванне, якое значна павялічыла фартыфікацыйныя якасці Наваградскага замка.

Такім чынам, у XVI стагоддзі Наваградскі замак быў адным з самых магутных у Беларусі і вытрымаў не адзін варожы націск.

**Алег Трусаў**

# ДОБРЫ ДЗЕНЬ!

З гэтых слоў пачынаем. Гутарку павядзем пра ветлівыя звароты. Яно і зразумела: нават не ведаючы мовы іншае краіны, кожны перад паездкай туды імкнецца вывучыць прынамсі прывітанні, падзякі, просьбы і прабачэнні. Дзіцячыя пісьменнікі, між іншым, даўно заўважылі, што гэтыя словы не простыя, а чарадзейныя.

„Добрай раніцы! Добрага ранку!" — гэтак павітаем мы сяброў і суседзяў, знаёмых і незнаёмых нам людзей, пакуль сонца не паднялося высока. „Добры вечар!" — скажам, калі западзе прыцемак. Можна і так вітацца: „Дабрыдзень!", „Добрага дня!". Або „Дзень добры!", хоць хтосьці і лічыць такі парадак слоў „польскім". А вітальны дыялог беларусаў выглядае так:

— Добры дзень вам!
— Добрага здароўя!
Ці так:
— Дзень добры ў хату!
— А добры, добры!
Або ўрэшце:
— Добры вечар!
— Добра білі, добра енчыў!

Больш „свойскія", таварыскія формы вітання: „Здароў! Здароў табе (вам)!", „Прывітанне!". Англійскаму „Хаў ду ю ду?" надта ж блізкае наша „Ці жыў, ці дуж?"; „Як вы жывы-дужы?"; „Як маешся (маецеся)?". Апошняе слова паходзіць ад „мець", і даслоўна зварот значыць „Як сябе маеш?".

Адметна вітаюць, заспеўшы пры розных працах і занятках. Калі ядуць, то кажуць: „Смашнога!" або „Смачна есці! Хлеб ды соль! Сыць Божа!". Адказваюць на гэта: „Дзякуй!" ці „Просім!". Распаўсюджаныя вітанні пад час працы — „Памагай Бог! Спорна табе! Спор у працу!". Пры малацьбе: „Умалотна вам!". Рыбалову: „Поўны сеці! Рыбна табе!". Урэшце, лазневыя вітанні: „Лёгкі дух! Парпарам паном-баярам!".

Здаровае пачуццё гумару спрыяе цвярозай самаацэнцы. Адказаць на прывітанне могуць у Беларусі і гэтак:

— Здароў!
— Здароў, калі не кпіш!
Ці:
— Добры вечар!
— Карміць нечым!

Вострa і, калі хочаце, з філасофскім падтэкстам. Не бянтэжцеся.

**ВІНЦУК ВЯЧОРКА**

# ПАЗНАЁМІМСЯ

Беларусь, г. Полацк, 211413, вул. Зыгіна, д. 63, кв. 12.
**Цімохава Вальжына.**

*Мне 9 гадоў. Мае тата і мама мастакі. Я люблю маляваць, а таксама чытаць кнігі. Хачу пазнаёміцца з хлопчыкамі і дзяўчаткамі, якія ведаюць беларускую мову.*

# ФЭСТЫН ПАД ШЭРЫМ НЕБАМ



*У Гарадку артыстаў віншаваў войт гміны Яўген Семянюк.*

21 жніўня адбыліся два беларускія народныя фэстыны: у Міхалове і ў Гарадку. У Міхалове мерапыемства перанеслі ў мясцовы Дом культуры, паколькі ішоў дождж. Выступілі тут мастацкія калектывы: Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку, „Васілёчкі" з Бельска-Падляшскага, „Арляне" з Орлі, „Цаглінкі" са Старога Ляўкова, гурт з Нараўкі, „Рэаль" з Беластока ды вакальна-інструментальны „Фэст" з Баранавіч (Рэспубліка Беларусь). Міхалоўскім гледачам такая імпрэза была да спадобы. Каб арганізаваць такое мерапрыемства ды паспяхова яе правесці, шмат папрацавалі дырэктар Гміннага цэнтра культуры Мікалай Грэсь і вельмі заангажаваны ў справы культуры Рышард Варабей.

Яшчэ пакрапваў дождж і нізка звісалі над зямлёй шэрыя хмары, калі мастацкія гурты пераехалі пад высокія медналствольыя сосны ў Барок ля Гарадка. Тут ад пачатку фэстыну і да яго заканчэння ўвесь час прысутны быў войт гміны Яўген Семянюк. Ён супольна са старшынёю Галоўнага праўлення БГКТ Янкам Сычэўскім вітаў усіх, хто прыехаў і прыйшоў на фэстын, а пасля фінальнага выступлення ўсіх калектываў сардэчна дзякаваў за ўдзел спевакам, інструменталістам і публіцы.

На сцэну пад кашлатымі галінамі сосен вядучая канцэрт Валянціна Ласкевіч запрашала „Васілёчкі", „Арлян", хор з Гарадка, „Рэаль", беластоцкі хор БГКТ і баранавіцкі „Фэст". Усе выступілі адметна. У гэтым відаць было вялікую і сістэматычную працу з хорамі здольных музыкаў з Гродна, Віктара Маланчыка і Мікалая Мяжэнага, а таксама беластоцкага музыкі Сцяпана Копы (ён, між іншым, вядзе гарадоцкі хор) і Аліны Нігярэвіч (дырыжор бельскіх „Васілёчкаў").

Сола выступілі Юрка Налівайка і Люба Гаўрылюк, а таксама ў адборным дуэце Люба Гаўрылюк і Валодзя Іванюк.

Абодва фэстыны трэба лічыць удалымі. Аказваецца, ёсць запатрабаванне на такога роду масавыя культурныя мерапрыемствы. Людзі на іх прыходзяць: маладыя і старыя, цэлымі сем'ямі. З усяго наваколля. Ï ажно шкада, што лета канчаецца... Больш бы такіх фэстынаў!

Падчас фэстынаў былі наладжаны: латарэя, якую арганізоўваюць штатныя працаўнікі Беларускага музея ў Гайнаўцы на чале з яго старшынёю Канстанцінам Майсеням, кірмаш беларускіх выданняў і магнітафонных касет з беларускімі песнямі (іх прадавалі Лідзія Ліс і Гражына Кавальская) ды сустрэчы з беластоцкімі беларускімі літаратарамі (сваю кніжку падпісваў Янка Целушэцкі).

Абодва мерапрыемствы закончыліся народным гуляннем. У гледачоў было жаданне не толькі паслухаць цудоўныя беларускія песні, але таксама і патанцаваць. Такая традыцыя!

**Янка Ляўкоўскі**
**Фота Сяргея Грынявіцкага**



*У Міхалове мерапрыемства перанеслі ў мясцовы Дом культуры.*




*БАРЫС РУСКО*

**НА ЗВАНІЦЫ**

Стаю на званіцы побач суму званоў
і побач крыку з-пад крыла птушкі,
і побач ссохлай галіны няшчырай
споведзі.
Гляджу ў гушчыню неба,
у чэрнь праўды,
на распаленую зорку,
на ўласныя плечы,
на пахавальны енк звону.
Ï думкі,
і туман,
і вуліца,
і дом,
і на стале букет далоняў —
у сэрцы званіцы.
Толькі па аблоках плыве вольны
небакрай.

## З ГІСТОРЫІ ГАРАДЗЕНСКАГА КНЯСТВА

*Працяг са стар. 4*

хадзілі з чарнігаўцамі і з полаўцамі-чытаевічамі на Менск, захапілі горад (...)". Таксама ён адразу замацаваў за сваім родам багатую Гарадзенскую зямлю.

Папярэднія, надта ж невялікія, археалагічныя раскопкі паказваюць, што тадышняя Гародня — гэта вялікі вайсковы, рамесніцкі, гандлёвы і культурны цэнтр. Насельніцтва займалася, між іншым, плаўкай жалеза ды вырабам з яго зброі і розных прыладаў працы і рэчаў штодзённага ўжытку. У Гародні знаходзіўся міжнародны рачны порт, пра яго сведчаць знойдзеныя тут пломбы, якімі значыліся тавары.

А нам нельга забываць, што ва ўсіх падзеях, якія адбываліся ў Гарадзенскай зямлі прымалі актыўны ўдзел нашы продкі. Гэта ж яны, воі з сялібаў, рассыпаных над Свіслаччу, Сакалдой, Супраслю баранілі гарадзенскіх цвердзяў ад нашэсцяў. Працаю рук тутэйшых людзей паўсталі крэпасці на тэрыторыі, якую займае цяперашняя паўночна-ўсходняя Беласточчына, — у Гарадку, Аляхоўшчыне, Гарадзішчанах, Трасцянцы (каля Саколкі) і інш. Сляды іх працы відаць на змуршэлых цаглінах першых мураваных збудаванняў Гародні і Ваўкавыска, на чэрап'і тадышняга посуду, што густа ўсцілае гарадзішчы нашай Беласточчыны.

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**

# ФІЛЬМАВАЯ ПРЫВАБНАСЦЬ БЕЛАВЕЖЫ

Пра тое, што Белавежа і Белавежская пушча карыстаюцца вялікай папулярнасцю ў кінематаграфістаў, мне ўжо не раз даводзілася даказваць на старонках „Нівы". У гэтых адносінах нічога не змянілася і зараз.

Ужо другі год здымаюць у пушчы свой тэлесерыял „Пульс першабытнай пушчы" Бажэна і Ян Валенцікі. Іхняя праца ўжо завяршаецца, а фільм з пяці частак будзе гатовы на пачатку 1995 г. Яго можна будзе таксама купіць, а продажам відэакасет мае заняцца белавежскі Прыродазнаўчы музей.

Яшчэ ўзімку Белавежскую пушчу наведалі з кінакамерамі Тамара Саланевіч і Пётр Гарбарчык. Сп. Тамара рэалізавала паўгадзінны рэпартаж „Крык пушчы", які дэманстраваўся 18 ліпеня г.г. па I праграме польскага тэлебачання. Што ніводзін фільм Т. Саланевіч не пакідае тэлегледача абыякавым да закранутай аўтаркай тэмы, думаю, пераконваць не трэба нікога. Гэтак было і ў гэты раз. Рэалізатарка закранула вельмі балючую справу — знішчэнне Белавежскай пушчы. Аб гэтым апавядае Лех Мілкоўскі, тутэйшы лоўчы, які якраз пераходзіць на пенсію. Лоўчы расказвае, а кінакамера пацвярджае ягоныя словы і ацэнкі вобразам. Калі не памыляюся, гэта першы фільм, які так праўдзіва паказаў трагічнае становішча славутага ляснога масіву. Шкада толькі, што паказалі яго надта позна, бо а гадзіне 22.30.

Пётр Гарбарчык у сваю чаргу рэалізаваў дзве кароткія тэмы для „Тэлевізійнага кур'ера ваяводстваў", які паказваюць у лакальнай перадачы па II праграме тэлебачання. Пра сучаснае становішча паляўніцтва ў пушчы расказваў Лех Мілкоўскі, а па зубрыных слядах вадзіў дырэктар Белавежскага нацыянальнага парку, д-р Чэслаў Аколаў.

Улетку ў Белавежу заглянулі дзве здымачныя групы з Нямеччыны і па адной з Японіі і Францыі. Замежнікаў перш за ўсё цікавілі зубры і рэшткі першабытнай пушчы. Рэалізаваны імі кароткія фільмы будуць паказвацца, або нават ужо паказваліся, па тамашніх тэлебачаннях.

Як цікавінку прывяду, што французскае тэлебачанне намервацца рэалізаваць фільм пра гарэлку „зуброўку". Ï хаця яе ў пушчы, прынамсі ў прамысловых колькасцях, не гоняць, то рэалізатары ўсё ж хочуць у Белавежу прыехаць, каб паказаць, як расце тая трава, якая выкарыстоўвацца ў прадукцыі „зялёнай гарэлкі". Пры нагодзе ўспомнілася мне, як некалькі гадоў назад у Белавежу зімой званілі японцы і дапытваліся, якія ёсць магчымасці сфільмаваць зараз гэтую славутую траву. Калі даведаліся, што трэба будзе пачакаць да вясны, былі няўцешаны.

З 15 да 19 жніўня г.г. у Белавежы знаходзілася кіназдымачная група з Кінастудыі асветных фільмаў і адукацыйных праграм у Лодзі. Дарэчы, лодзінскіх кінематаграфістаў у пушчы шмат гадоў мы не бачылі.

— Паскарочвалі рэзка ў нас штаты, — тлумачыць мне кіраўнік прадукцыі Анджэй Жэлязоўскі, — а і грошы на рэалізацыю новых фільмаў зараз цяжка прыходзіцца здабываць, таму і мы доўга да вас не заглядалі.

Адначасова ў фільматэцы лодзінскай кінафабрыкі поўна фільмаў, якія рэалізаваліся раней. Іх калісьці недзе дэманстравалі, але цяпер ляжаць беспрадуктыўна. З мэтай выкарыстаць гэты надта каштоўны матэрыял узнікла задума зрабіць прыродазнаўчы, у асноўным, тэлесерыял для дзяцей „Клуб пана Рыся". Кожная з дзесяці (або нават больш — гэта вырашыцца крыху пазней) 23-хвілінных серый прысвячаецца асобнай тэме. Архіўны матэрыял будзе папоўнены сучаснымі здымкамі.

У Белавежы рэалізаваўся пяты па чарзе адрэзак тэлесерыяла, дэманстрацыя якога прадугледжана на першую пятніцу кастрычніка г.г. (сам тэлесерыял пачне дэманстравацца 9 верасня г.г. па II праграме тэлебачання, а працягвацца будзе кожны тыдзень, па пятніцах, пачатак а гадз. 19.30). Тэмай белавежскай серыі будуць зубры, самая пушча і праблемы з імі звязаныя. З усім гэтым дзяцей (выступаюць лодзінскія вучні пачатковых класаў — Кася, Оля і Лукаш) знаёміць у арыгінальны спосаб вынесены ў загаловак фільма пан Рысё, значыць Рышард Выжыкоўскі, вядомы польскі кінаапаратар, прыродазнаўца і падарожнік. Фільм рэжысіраваў Мікалай Гарэмскі, а здымкі выконваў Раман Дэмбскі, які наведваў Белавежу з кінакамерай ужо і раней.

Усё паказвае, што гэта не апошні фільм рэалізаваны сёлета ў Белавежскай пушчы.

**ПЁТР БАЙКО**

# СВЯТЫЯ МУЧАНІКІ АДРЫЯН І НАТАЛІЯ

Гісторыя гэтая здарылася ў пачатку IV ст. у Нікамедыі (цяпер Ізміт у Турцыі). Аднойчы ў гэты горад, які знаходзіўся ў паўночна-заходняй частцы Малой Азіі на беразе Мармуровага мора, прыбыў вялікі вораг хрысціян імператар Максіміян. Пасля цырымоніі ахвярапрынашэння язычніцкім бажкам, якая адбылася ў прысутнасці жыхароў горада, ён загадаў вышукоўваць і мучыць хрысціян.

Злавілі тады 23 хрысціян, якія хаваліся ў пячоры непадлёк горада. Па дарозе ў турму сустрэў іх сам імператар. Яны не спалохаліся чакаючых іх пакутаў, але нават сказалі яму, што за праследаванне хрысціян імператар будзе пакараны. За такія словы злоўленых хрысціян моцна пабілі і падвяргглі іх катаванням, а потым закулі ў кайданы і заперлі ў турэмную камеру.

Усё гэта бачыў адзін з багатых гараджан, якога звалі Адрыян. Бачачы іх цярплівасць і адвагу, палічыў ён, што за такія пакуты яны мусяць чакаць ад кагосьці нейкай значнай узнагароды. Калі Адрыян запытаў іх пра гэта, пакутнікі сказалі, што Гасподнюю ўзнагароду нельга ні выразіць словамі, ні паняць розумам. Свяшчэннае Пісанне так піша аб гэтай славе: „...чаго не бачыла вока і не чула вуха, і што не ўзыходзіла ў сэрца чалавека, тое Бог прыгатаваў любячым Яго" (1 Карынф. 2,9).

Пачуўшы гэтыя словы, Адрыян публічна заявіў, што ён — таксама хрысціянін і разам з пакутнікамі хоча памерці за Хрыста Госпада. Калі імператар даведаўся пра тое, загадаў прывесці да сябе Адрыяна і сказаў яму, што той, мабыць, страціў розум. Адрыян адказаў, што яму толькі цяпер вярнуўся розум і ён будзе прасіць сапраўднага Бога, каб адпусціў яму грахі, якія ён учыніў будучы язычнікам. Пасля Адрыяна таксама закулі ў кайданы і зачынілі ў турме разам з 23 хрысіянамі, дзе чакаў дня, у якім мелі іх падвергнуць супольным пакутам.

У той час паведамілі жонку Адрыяна аб яго знаходжанні ў турме. Калі Наталія прыбыла ў турму і даведалася, што яе муж-язычнік паверыў у Хрыста, вельмі ўзрадавалася, бо яна сама была тайнай хрысціянкай. Многа дзён прабывала яна ў камеры пакутнікаў, прамываючы і перавязваючы ім раны і прыносячы такім чынам палёгку знясіленым. Калі надышоў дзень чарговых пакут, выявілася, што тыя 23 хрысціян так аслабелі, што пасля чарговых катаванняў могуць яны памерці. У такой сітуацыі вырашылі пакінуць іх у спакоі, каб набралі сіл, а толькі Адрыяна здалі ў рукі катаў. Наталія звярнулася да пакутнікаў з заклікам, каб тыя маліліся аб сілу і стойкасць для яе мужа. Адрыяна спачатку білі палкамі, а потым тоўстымі калкамі па ўсім целе, а на канец па жываце, пакуль не выйшлі вантробы. Імператар прабаваў яшчэ ўгаварыць Адрыяна, каб той адрокся ад хрысціянскай веры і пакланіўся паганскім бажкам, паабяцаўшы пры гэтым, што лекары зоймуцца ягонымі ранамі. Не дасягнуўшы сваёй мэты, імператар назначыў дзень расправы над усімі пакутнікамі. Наталія зноў падалася ў турму і там перавязвала раны мужу і астатнім пакутнікам. Калі яе і іншых жанчын сталі не пускаць у турму, Наталія зрэзала валасы і ў мужчынскім адзенні пранікала ў



камеру і далей дапамагала зняволеным. Даведаўшыся аб усім гэтым, імператар прыгаварыў іх да неадкладнага пакарання смерцю. У камеру занеслі накавальню і магутны молат, каб трушчыць ім рукі і ногі. Наталія папрасіла катаў, каб пачалі з яе мужа і сама палажыла на кавадла яго ногі. Калі іх адбілі, яна палажыла і руку, якую працягнуў сам Адрыян. Пасля таго, як молат адрэзаў руку, Адрыян у страшэнных муках аддаў сваю душу Богу. Потым у такі сам спосаб расправіліся з астатнімі пакутнікамі, а іх целы вырашылі спаліць. Наталіі ўдалося захапіць з сабою руку свайго мужа і схаваць яе дома. Калі сталі рыхтавацца паліць целы, пачуўся магутны гром і маланка рассвятліла неба, а праліўны дождж патушыў агонь. Некаторыя з катаў загінулі ад перуна, а астатнія паўцякалі. Наталія з жанчынамі выцягнулі са стоса целы, якія аказаліся някранутымі. Са згоды Наталіі целы пакутнікаў узяў адзін шанаваны чалавек, які разам з жонкай перасяляўся ў Візантыю і абяцаў захаваць гэтыя астанкі.

Пасля смерці Адрыяна імператар хацеў Наталію паўторна выдаць замуж, але яна малілася Богу і прасіла, каб ён захаваў яе ад гэткага лёсу і забраў яе да Сябе. Неўзабаве ў сне з'явіўся ёй адзін з мучанікаў і сказаў, што Гасподзь выслухаў яе малітву. Перадаў ён таксама, што яе муж яшчэ перад ім самім трапіў у Царства Нябеснае. Пасля гэтага Наталія падалася да целаў пакутнікаў, якія знаходзіліся ў Візантыі, у царкве на беразе мора. Тут ёй уявілася, што сам Адрыян сказаў, што неўзабаве і яна сама прыйдзе туды, дзе і ён знаходзіцца. Наталія расказала аб усім гэтым жанчынам, якія былі разам з ёю, паўторна заснула і аддала сваю душу Госпаду.

Свой пакутніцкі шлях закончыла яна незадоўга пасля смерці мучанікаў, хаця без кровапраліцця. Перажыла яна, аднак, з імі ўсе пакуты і за свае подзвігі была занесена ў лік мучанікаў.

Памяць святых Адрыяна і Наталіі і 23 астатніх мучанікаў ушаноўваем 8 верасня (26 жніўня па старому стылю).

С.Н.

# ІКОНЫ

**Частка І**

Праваслаўныя іконы зрабілі велізарную кар'еру ў пасляваенны перыяд. Прызнаны яны, па сутнасці ўсім светам, за вялікі мастацкі здабытак. Бадай усе мастацкія музеі свету стараюцца адкрыць экспазіцыі сваіх або пазычаных ікон. Зразумела, што цэны на іконы пайшлі ўверх сотні і тысячы разоў. У такой сітуацыі не мог не ўзнікнуць міжнародны рынак па куплі-продажу праваслаўных абразоў. Чым вытлумачыць такую галавакружную кар'еру? Думаю, што не толькі вартасцю кавалка дошкі і кубачка фарбы, а чымсьці тым нявыказаным, а па сутнасці духоўным і таемным, што заключае ў сабе якраз праваслаўная, а не іншая ікона.

Да Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Беларусі было чатыры з паловай тысяч цэркваў і сакральных аб'ектаў. Зразумела, што ва ўсіх гэтых аб'ектах былі дзесяткі або і сотні ікон. Апрача гэтага іконы знаходзіліся практычна ў кожным праваслаўным доме. Зразумела, што не ўсе яны мелі мастацкую вартасць. Частка з іх была прадуктам шаблоннага малярства, якое развівалася ў розных майстэрнях, нярэдка іконы малявалі на звычайнай паперы паводле акрэсленага шаблону. І трэба сказаць, што такога тыпу іконы пераважалі ў беларускіх вясковых хатах. Аднак побач іх былі таксама цэнныя іконы на дрэве, напісаныя ў перыяды беларускага сярэднявечча і рэнесансу. У выніку найчасцей нявысветленых і таемных лёсаў такога тыпу іконы знаходзіліся не толькі па цэрквах, манастырах і капліцах, але і ў сялянскіх хатах. Сказанае датычыць таксама ўсходняй Беласточчыны, амаль усіх яе цэркваў і многіх сялянскіх хатаў.

Вялікая колькасць беларускіх іконаў была знішчана ў часе рэвалюцыі і ў пасляюрэвалюцыйны сталінскі перыяд, калі праграмна знішчаліся цэрквы і манастыры, а таксама ўсё тое сакральнае багацце, якое ў іх знаходзілася.

Памятаю апавяданне Васіля Тарасава, які выкладаў гісторыю беларускай літаратуры ў Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта ў 1956—1958 гадах. Дацэнт Васіль Тарасаў з гордасцю расказваў аб тым, як яго бацька першым у вёсцы пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі паздымаў са сцэнаў і пакідаў у печ усе іконы. На маю заўвагу, што іконы з'яўляюцца праявай мастацтва і што можна іх шанаваць нават не верачы ў Бога, Тарасаў адказаў: „Што гэта за мастацтва, калі яно баламуціць людзей. Мастацтва павінна весці чалавека ў свята, а не ў цемру!"

Асабіста я не сустрэўся з так экстрэмальнымі паступкамі і іх інтэрпрэтацыяй ва ўсходняй Беласточчыне, дзе практычна ў кожнай хаце віселі і вісяць іконы. Я таксама ніколі не чуў, каб хтосьці іх здымаў, а тым болей паліў. Ужо некалькі дзесяткаў гадоў таму назад паявіліся ў беларускіх вёсках усходняй Беласточчыны людзі, якія пачалі выменьваць ад мясцовага насельніцтва іконы.

Памятаецца мне аўтарская сустрэча ў Старым Беразове недзе на пачатку 60-х гадоў, у часе якой мясцовы жыхар апавядаў, што яго хату некалькі разоў наведалі цыганы і што моцна падгаворвалі яго прадаць ікону на дрэве. На маё пытанне, ці ён ікону прадаў, селянін рашуча адказаў: „Які з мяне быў бы хрысціянін, калі б я ікону прадаў цыгану?! Яна ў мяне ад дзеда, а мова і прадзеда і я хацеў бы, каб яна віссла ў маёй хаце тады, калі будзе ў ёй жыць мой дарослы праўнук".

Трэба сказаць, што не ўсе беларусы ўсходняй Беласточчыны патрапілі захаваць такую прыгожую паставу.

АЛЕСЬ БАРСКІ

# БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

**Studia i Materiały nr 56.** *W kręgu kultury białoruskiej.* Wyższa Szkoła Pedagogiczna w Olsztynie, Olsztyn 1994 ss. 189; 23,5 x 16,5 cm. (m. in.: PIŁAT Walenty: Uwagi wstępne, s. 7; ŁANIEC Stanisław: Początki nowożytnego ruchu narodowego Białorusinów, s. 9—16; ZIENKIEWICZ Tadeusz: Jan Niesłuchowski (Janka Łuczyna) i jego związki z Polską, s. 17—34; ZWONARIEWA Lola, KONAN Uładzimir: Franciszek Bahuszewicz. Kilka faktów z życia i twórczości pisarza, s. 35—40; BARTOSZEWICZ Albert: O pewnym typie amplifikacji w poezji Maksima Bahdanowicza, s. 41—48; SKIBIŃSKA Zofia: Poezja Maksima Bahdanowicza w polskich przekładach, s. 49—54; ANKUDOWICZ-BIEŃKOWSKA: Obraz kultury duchowej ludu białoruskiego w wypowiedziach Jana Barszczewskiego (na podstawie polskich czasopism literackich ziem litewsko-ruskich lat trzydziestych-pięćdziesiątych XIX wieku), s. 55—62; PANASIUK Nadzieja: Motyw biesiady w przedwojennej literaturze białoruskiej, s. 63—72; BARSZCZEWSKI Aleksander: Wasil Bykau — pisarz żołnierskiego losu, s. 73—82; JACKIEWICZ Mieczysław: Twórczość Wasila Bykawa w Polsce w latach 1963—1982, s. 83—94; RUDZIEWICZ Irena: Polska recepcja twórczosci Janki Bryla, s. 95—104; NIEUWAŻNY Florian: Sztuka i historia w poezji Uładzimira Karatkiewicza („Malarski" tetraptych poetycki), s. 105—116; BABKOU Ihar: Aleś Razanau. Uwagi na marginesie ukrytego sensu, s. 117—124; PIŁAT Walenty: O specyfice świata przedstawionego w dramatach Alaksieja Dudarawa, s. 124—132; JAROSZEWICZ-PIERESŁAWCEW Zoja: Mniejszość białoruska w Polsce. Wybrane problemy, s. 133—152; GŁUSZKOWSKA Jadwiga: Wpływy białoruskie w języku pieśni ludowych z Podlasia, s. 153—158; BARSZCZEWSKA Nina: Białoruski system gwarowy pięciu wsi na Białostocczyźnie (na materiale leksykalnym, związanym z narodzinami dziecka), s.159—168; KONDRATIUK Michał: Toponimiczny format *-icha* w gwarach polsko-białoruskiego pogranicza, s. 169—184.

Opinie o książkach. T u r b i n a Ljubov: *Naša nadežda živa esli plačem.* Minsk 1991 ss. 40; Rec. OBŁĄKOWSKA-GALANCIAK Iwona: Głębia myśli i odczuć. O poezji Luby Turbiny, s. 185—186; D u d a r' e v Aleksej: *Porog.* Moskva 1989; Rec. GRZEBIENIAK Anna: Dramaturgia dylematów moralnych, s. 187—189.

P. C.

# НЕЗВЫЧАЙНАЯ СУСТРЭЧА

6 жніўня г.г. задумала я наведаць родную вёску. Прыбітая жарой і падарожжамі, затрымоўвала я за Ласінкай над'язджаючыя машыны. Урэшце пашчасцілася. Машына затармазіла, адкрыліся дзверы і ветлівы чалавек загаварыў да мяне на беларускай літаратурнай мове. Уражанне было нязвыклае. Упершыню я пачула, як нехта, падвозячы незнаёмага, пачынае першы размаўляць па-беларуску. На Беласточчыне пераважна ў такіх абставінах гавораць па-польску.

— Вы мяне не ведаеце? — папытаў мяне гэты чалавек.

— Ведаю, толькі не веру, што гэта Вы.

Так, я мела гонар афіцыйна пазнаёміцца з епіскапам Лодзінскім і Познанскім Сіманам. Яго Праасвяшчэнства сказаў таксама шмат цёплых слоў у адрас „Нівы", а я з нагоды дня свайго ангела атрымала сардэчныя пажаданні.

Сустрэча была незвычайная і таму, што дзень раней я адшукала ў архіве „Нівы" артыкулы Уладыкі, бо рыхтую матэрыял пра гэтага выдатнага чалавека.

ГАННА КАНДРАЦЮК

*СЦЯПАН АБУХ*

# З запісаў нацыяналіста

## 1. Подпісы ў Шымках

Нагаварыўся я па-беларуску таго дня ўдосталь, а не было яшчэ нават абеду. Гаварыў, зразумела, у нашай Зоне, у рэдакцыі „Гоняў". Яшчэ толькі адно пасяджэнне, на якім праглыну дзённую порцыю грамадскай дзейнасці і, можна сказаць, што дзень быў зусім удалым. Сустрэча, цалкам выняткова, назначана была ў сядзібе Асацыяцыі народнай песні і танца. Асабіста я меў некаторыя засцярогі, каб бяспечна гаварыць там па-беларуску, але сябры сумненняў гэтых не раздзялялі. Што ж, пара была цалкам незвычайная — ішла выбарчая кампанія ў сенат Любагорска, — таму, так мне сёння думаецца, гутарка на такой незвычайнай мове па-за Зонай магла ўспрымацца, як штосьці цалкам звычайнае.

Чытачу, які калі-небудзь трапіць на гэты запіс, належыцца тут не адно паясненне. Усё гэта памалюську. На пачатак самае асноўнае. Любагорск — гэта самы незвычайны горад у краіне. Жывуць тут у згодзе ўсе нацыянальнасці ды ўсе канфесіі. Нацыянальнасцяў у Любагорску прыблізна пяць, а канфесій, бадай, чатыры. Справа гэтая вартая асобнага раздзела ў маім дзённіку, таму тут запынюся толькі над аспектам нацыяналізму ў горадзе. Як і ва ўсім цывілізаваным свеце, так і ў такім абсалютна выключным месцы ўсё наогул мае сваю цывілізаваную форму. Нацыяналізму выдзеленая адмысловая Зона ў Любагорску, у якой знаходзіцца, між іншым, толькі што згаданая тут рэдакцыя „Гоняў". У Зоне, і толькі ў ёй, дазволена, скажам, гаварыць не на любагорскай мове ці выносіць нацыянальную ідэю. Па-за Зонай абавязвае абсалютная касмапалітычнасць, адзіная платформа Вялікай Міжнацыянальнай Згоды. Людзі, прыкладна, уваходзяць у мешаныя сужонствы і лічаць гэта найвялікшым у жыцці гонарам, ідэалам. Кожнае, на шчасце нешматлікае, адступленне ад гэтай нормы ўспрымаецца як сур'ёзнае парушэнне Агульна Абавязваючых Прынцыпаў. Парушэннні такія сакрэтна даследуюцца створанымі дзеля гэтага службамі, кожны выпадак даследуецца індывідуальна, робяцца высновы і статыстыкі.

Доследы гэтыя, калі сягнуць у мінулае, мелі, верагодна, яшчэ адну мэту — вырашыць пытанне нацыяналізму ў Любагорску. Сведкі тае пары, на жаль, набралі вады ў рот. Цяжка ўжо сёння вытлумачыць, чаму пытанне гэтае засталося без канчатковай развязкі. Несумненнай застаецца толькі Зона — у сваёй задуме часовае прытулішча для нацыяналістаў, нігілістаў, шпіёнаў ці звычайных ашаломаў... Зона, аднак жа, вытрымала выпрабаванне часу. Архітэктары Вялікай Міжнацыянальнай Згоды дайшлі тут, мусіць, да вываду, што ў любой рэальнасці ды ў любы час у Любагорску знойдзецца элемент непрыстасаваны да Агульна Абавязваючых Прынцыпаў.

Зона ў свой час мела відавочныя турыстычныя якасці. З'яўляліся ў яе экскурсіі з іншых частак краіны ды з замежжа. Хутка, аднак жа, яны спыніліся. У Зоне, акрамя нікому не зразумелай нелюбагорскай мовы, пачалі выспяваць небяспечныя для наваколля Зоны ідэі. Архітэктары Вялікай Міжнацыянальнай Згоды ўзмоцнілі адізаляванасць Зоны, здымаючы адначасна гэты пункт з турыстычных картаў і даведнікаў. Зона стала месцам, куды зрэдчас выбіраліся ўсяго авантурысты ў пошуку моцнай прыгоды або звычайнай дракі...

Сапраўднае маё прозвішча Максіміліян Шызахрэн. У Зоне ўсе маюць зменены прозвішчы, таму мяне там завуць Сцяпан Абух. Нарадзіўся я ў Зоне ды ў ёй правёў найлепшыя гады маёй маладосці. Быў сведкам і ўдзельнікам не адной там падзеі. Ім менавіта і прысвячаю гэты свой запіс. Рука ў мяне ўжо дрыготкая, гэта з прычыны спажывання высокаградусных напояў, якія ў зоне п'юцца ад калыскі...

Ішла, як згануў я напачатку, выбарчая кампанія ў сенат Любагорска. Зонаўцы (так звалі нас любагорцы) пільна сачылі за гэтым працэсам, пакуль самі не вырашылі прыняць удзел у гонцы. Наспех створаны быў Нацыянальны камітэт Зоны — Зона, хаця была адізаляванай ад Любагорска, карысталася такім жа правам, як і любы іншы квартал горада, у тым ліку і выбарчым. Заставалася толькі адна дробязь — Камітэту трэба было надаць законную сілу. У працу Камітэта ўключыліся ўсе мы, якім было па гадоў дваццаць з нечым. Камандаваў Камітэтам і намі Хвядос Юрыга Які Не Быў Чорны. Дзіўная яго мянушка ўзялася адтуль, што быў ён нейкі час падазроным у шпіёнстве на карысць Рэспублікі Замбара на заходнім пабярэжжы Афрыкі. Але, калі разведкі Замбара і Зоны наладзілі сакрэтнае супрацоўніцтва, Хвядос Юрыга быў вызвалены ад усіх падазрэнняў, а прыяцелі прышпілілі яму незвычайную гэту мянушку... Лёгка сказаць — узаконіць Камітэт. Мусілі мы назбіраць 120 тысяч подпісаў у падтрымку. Пасяджэнні Камітэта праходзілі амаль штодзённа. Зыходзіліся на іх усе вядомыя ў Зоне дзеячы. Супольна мы дадавалі сабе духа: „Зона перад усім!", „Зона гаворыць сваім голасам!", „Увесь свет — адна Зона!" — паўтаралі мы баявыя заклікі. Настрой быў добры, зборка подпісаў набліжалася да канца. Юрыга Які Не Быў Чорны рашыў, што трэба сабраць пару тысяч подпісаў звыш нормы. Так на ўсякі выпадак — Юрыга, які меў неблагія сувязі навонкі Зоны, добра ведаў што робіць.

— Трэба гэта зрабіць, — азваўся пабеларуску Юрыга. Знаходзіліся мы ў сядзібе Асацыяцыі народнай песні і танца, па-за Зонай, дзе абавязвала любагорская мова. — Толькі ў такім выпадку — цягнуў ён па-беларуску, — запэўнім законнасць для нашага Камітэта.

Агульны яго вывад быў для мяне ясным — выбарчая камісія спрабуе паставіць пад сумненне ўжо верагоднасць подпісаў, каб не дапусціць прадстаўніка Зоны да ўдзельніцтва ў сенаце, а гэтым самым падтрымаць засакрэчанасць самой Зоны.

Гэтага дня апошні раз сфармавалі мы ўдарныя групы дзеля збору подпісаў. Я апынуўся ў адной з Юрым Бабко. Адчувалася прыўзнятасць моманту. Рушылі мы ў Шымкі. Мала калі я адчуваў сябе так добра. Гаварылі па дарозе пра бабаў з-па-за Зоны. Бабко ў час апошняга свайго двухдзённага рэйду па-за Зону праспаў з адною і гаварыў толькі пра тое.

У Шымках пенсіянеры сядзелі на лавачках. Здалося мне, што гавораць яны па-беларуску. Бабко прыняў гэта за добры знак.

— Падтрымайце нас, — пачаў ён па-беларуску, — а Нацыянальны камітэт Зоны з усяго Любагорска зробіць адну зону.

Пенсіянеры ўважліва паглядзелі на Бабко, прабуючы ўразумець, што тут адбываецца. Да плота падышоў гаспадар, таксама пацікавіўся. Урэшце адна з жанчын на лавачцы прамовіла:

— А мы ніякія тут зонаўцы, мы, як усе, любагорцы, — шпарнула наадрэз па-беларуску яна. Бабко не здаваўся.

— Hryemphs bulla khrantt? — запытаў ужо па-любагорску Бабко, з характэрным жыхару Зоны акцэнтам. Але гэтае пытанне знервавала жанчыну.

— Саромеліся б так хадзіць па людзях!

Той гаспадар, што стаяў каля плота, паспеў схадзіць пад клуню. Вяртаўся з касою.

— Хадзі-хадзі, — крычаў да нас, — я вам зараз падпішу! — І цяў паветра касою. А мы, давай, ходу...

Уцякаў я ад помсты гаспадара з Шымкаў і зразумеў, што дзень не заўсёды з'яўляецца такім удалым, як гэта ўяўляецца перад абедам у маёй каханай Зоне.

*Тлумачэнні:*

*— Вялікая Міжнацыянальная Згода (ВМЗ) — грамадская дактрына Любагорска, прынятая сенатам горада ў палове сямідзесятых гадоў.*

*— Агульна Абавязваючыя Прынцыпы (ААП) — маральная дактрына Любагорска, дапаўненне ВМЗ на канфесійным узроўні.*

---

Якія мы людзі

# ВАЗЬМІ ЗНАЙДЗІ ТЫ ТОЕ ШЧАСЦЕ...

Колькі мне будзе год? Васьмідзесяты ўжо пайшоў! Я і не думала, што столькі нажывуся! А тут яшчэ жыць далей трэба. Дзяцей уласных у мяне было толькі трое, двое ў жывых засталося, бо дзяўчынка, што перад Стасікам была, у сваіх пяць месяцаў памерла. Маруська ў Беластоку замужам, Стасік во з намі на гаспадарцы. І ягоных, майго чалавека, дяцей было сваіх сямёра, я на іх прыйшла, хоць страшнавата было. Само старшы — Ясько; ён хварэе, і яго жонка нядужая, другі — Жоржык, а Коля ўзяў сабе жонку з Піша, то што яна — глядзіць толькі сама сябе, каб смачна і мякка, пра мужа не дбае... Зінка дачку ў палякі замуж аддала, і сына, ну, якась там жывуць... Зінчына сынавая вось нядаўна да нас прыязджала, кажа: „Бабулю, я на вёскэ в жыцю не пуйдэ, едно ноц пшэноцоваць і то ценшко"... Усе Максімавы дзеці — як мае, усе дзевяцёра ж я выхоўвала. Усе разляцеліся па свеце, апрача Стасіка. Не мае ён добрага лёсу, Бог мусіць не даў. Чаму не, ажаніўся і ён быў. Якраз *стан ваенны* быў. Толькі з арміі прыйшоў, яны там у войску страшэнна ўсё перажывалі, нервы страцілі. А наша дзеўка, з суседняе вёскі, з Каўпакоў, пяць гадоў за яго старэйшая, за яго ўчапілася. Казала я Стасіку, угаварвала: „Не бяры яе. То ж і старэйшая за цябе, ты ж пры ёй дзяцюк, і без бацькі гадаваная, распушчаная!" Ну, што ж, узяў. Год пабыла ў нас, усё добра. Не пасварыліся мы з ёю ні разу, нічагусенька, усё добра, усё *харашэ*. А пасля штосьці такое ёй стрэльнула, пацягнулася лепшага шчасця шукаць. Прыйшоў раз увечары Стасік і кажа: „Чаму вы, мамо, самі прыбіраеце, дзе ж Крыська? Пайду на будову, пагляджу". Пайшоў шукаць жонку, я сама ўсё парабіла, а шмат было працы, як то на гаспадарцы: дзве карові, конь, двое жарабят... Чакаем, чакаем, аж бацька выйшаў за імі. Урэшце, прыплялася Крыська. Дзе ты была? Тая села і давай спяваць. Нічога не гаворыць, сядзіць, глядзіць як той слуп ды пяе. Не слухае, што Стасік кажа: „Так? То ты думаеш мне о так усё рабіць?! Хто так бачыў!" Меў раніцай выязджаць у нядзелю па справах, то не вытрымаў, паехаў у суботу. Казала я ім: „Можа, паладзіцеся, усё будзе добра." Але не, паехаў, не паміры́ўся. А Крыська давай цягацца, ано сябры, п'янкі, забавы. Павыцягала ўсё, што я ім дала, да бацькоў у свае Каўпакі. Знайшла сабе новага кавалера, у нас жа жанчын мала, кожна знойдзе сабе аматара, хоць найгоршая, а з ёю асабліва хлопцам лёгка прыходзілася. Стасік не мог на яе глядзець, развёўся.

Зышоўся з іншаю, разведзенаю, дзеўчынку сваю мела маленькую. Сама маладая, выскачыла была ў семнаццаць гадоў замуж, цераз суд. А якая ж недарэка! Стасік прыйдзе з працы, мусіць наварыць, накарміць дзяцей (нарадзіўся ім хлопчык), усё памыць. Казала я яму: „Не бяры бабу з дзіцём! Я сама прыйшла на такую грамадку, у свае 35 гадоў, то ведаю, як цяжка гадаваць чужых дзяцей, дагадзіць кожнаму, быць за матку і сваім, і чужым. І мне самой цяжка будзе, трэба ж будзе вам дапамагаць! А гэта твая мэмла нават пасцелі не памые, пральку не ўмее ўключыць!? І такая дзіўная: прыйдзе, сядзе, адчыніць поўны халадзільнік, паглядзіць. Сядзіць, потым возьме чыкаляду, з'есць яе, пап'е вадою, кажа, ужо пад'ела. А дзіця бегае, просіць: „Мамо, дай, мамо, дай!" А то ж не дасць, сама ўсю плітку ўвапрэ, абліжацца. Я не магу глядзець на гэта, ці то будзе яе Анечка, ці мой унучак: як так можна з дзіцём! Аж слёзы мне з вачэй плывуць, так мне малога шкада. Мы, старыя, нічога ёй не шкадуем, памагаем, даем усё-ўсянюсенька — наце вам дыван, наце вам мэблю, наце вам ласункі, наце вам усё, дзеткі. А яна, разумееш, усё тое, што дамо, вынясе ў рэчку выкіне! І кумпяк, і спадніцу, і дзе што! Ну, як ненармальная нейкая! Прыйшоў раз да мяне Стасік і кажа: „Мамо, мая Лілька хоча сабе добры кажух купіць. Маёй зарплаты не хопіць, пазычце". Далі. Дастаў Стасік выплату, паехала Лілька з маткай спачатку ў Гайнаўку, але кажухі не спадабаліся. Заехалі і ў Ворлю. І ў Бельску добрага кажуха не знайшлі. А дзе грошы? На што магла іх столькі выдаць? На гэту блузачку? Узяў Стасік не вытрываў, парваў тую шматку: „Калі ты такая, то пайшла ты прэч!"

Ды дзіцяці шкада. Што ты зробіш. І так малы ўжо тры гады як не з намі, а ўжо шосты яму пайшоў. Такое малое звітнае, файнае, харошанькае. Памятаю, глядзіць у акно: „Бабуленька, глядзі, наш дзядулек ідзе"... Гэта тады, як Максім яшчэ мог хадзіць, па падворку ўпраўляўся. І ўсё следам малы за дзедам, пасабляе. А такі харошанькі, пацешны, кучаравенькі. Усе мы так яго любілі, ды і яго сястрычку, Лільчыну дачку, ніколі ў нічым не абміналі, дбалі, як пра сваё, давалі абодвум ўсяго пароўну. Але як жа вытрымаць з такою маткай, якая нават за сабою нічога не зробіць! Прыйшла да мяне Лільчына маці, раскрычалася: „Чыя гэта віна, што разводзяцца? Напэўна, яго, яна ж маладая і дурная, то павінен яе жыць навучыць, запанаваць над ёю, а не адразу кідаць!" Ну, вазьмі ты жыві, нават быўшы анёлам, калі на кожным кроку з нерваў цябе выводзяць!

Стаў Стасік з таго ўсяго папіваць, але не можам на яго наракаць. Добры з яго сын. Пра бацьку так дбае, як дачка — а яго ж і памыць трэба, і перавярнуць. Я слабая, не дам рады. Усё ў нас у хаце Стасік прыбірае, гатуе, мые. Дзяўчына так не зробіць, як ён, спячы пірог умее нават. Стараецца. Калі б не ён, даўно мы абое былі б у магіле, а гаспадарка зарасла б крапівою. Толькі толку ў яго жыцці мала, я старая бачу, як яму горка жыць. Што ж зробіш! Як мы стараліся дапамагаць, дагадзіць, і ўступалі, але гэта нічога не дало яму сямейнага шчасця. Такі лёс мусі ў яго быў, не? Дурны лёс. А які мой лёс быў? Я сюды прыйшла ў сталыя ўжо гады. Не было калі пайсці раней замуж, вайна, потым мама памерлі, трэба было бацьку дапамагаць. Ой, як цяжка было, бедаў столькі. Ды і ўсім не было салодка. Столькі гора я перажыла, што не выкажаш! Лягу цяпер, у першы сон крыху засну, потым прачнуся, і такі мяне жаль возьме, плач над маім жыццём. Нервы аж дрыжаць... Я тутака ўжо амаль 50 гадоў, а мне мой родны хутар сніцца...

Столькі тут пакінула, столькі дзяцей выхавала, а амаль сама засталася. Да Максіма ўжо бацюшка прыходзіў, ледзь стары дыхае, ды і што за жыццё... І Стасік чахне мне ў вачах. Што ж я зраблю, скажэце...

**Запісала МІРА ЛУКША**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! У тую ноч наснілася мне дык наснілася! Спачатку быццам была я ў нейкай краме. У краме прадавалі абутак. Якія ж там былі прыгожыя боцікі! Я іх перамерваю на сябе, але ўсе яны на мяне завялікія.

І раптам я ўжо нібы на адпачынку. Жывем у пакоях не надта цікавых, быццам бы гэта не гатэль, а нейкі інтэрнат. Усе пайшлі на пляж, а я чамусьці засталася. Ходзіць толькі прыбіральшчыца, але прыбірае абыяк. У мяне мільганула думка: „Ну, так, як і ўсюды..."

Раптам бяжыць мышка. Яна малюсенькая, велічынёю як насякомае — нібы гэта прусак, нібы жук нейкі! Я пачынаю яе лавіць, але злавіць яе вельмі цяжка. Кідаю на яе коўдру, накрываю, але яна лётае пад коўдрай. Я стукаю рукамі па коўдры тут і там, але мышка ўцякае.

Паяўляецца нейкае другое насякомае. Я ведаю, што мушу і яго злавіць. Мышка тым часам прыкрытая коўдрай. Пачынаю лавіць і тое, і тое. Нарэшце злавіла тую мыш. Раздушваю яе як нейкае дакучлівае, назойлівае насякомае. Што сталася з другім — не ведаю. А зрэшты, пазваніў будзільнік. Чаго я, Астроне, пасля такога сну павінна асцерагацца?

**Тацяна**

Даражэнькая Тацяна! Асцерагайся скрытых ворагаў, якіх у цябе нямала (гэта тая мыш). Ад іх у цябе будуць нейкія клопаты і непрыемнасці (што была мыш, як насякомае, а да таго ж паявілася і другое насякомае). Але занадта не хвалюйся і не перажывай: хаця і цяжка было табе злавіць тую мыш, усё ж табе гэта ўдалося і ты яе раздушыла, быццам нейкую казяўку.

**АСТРОН**

## З КУФЭРКА БАБУЛІ НАДЗЕІ

*(працяг; пачатак у 21, 31, 33—35 н-рах)*

**6**

Сёння нізка іншых прыпевак, якія запамятала сп. Надзея Руско з Белавежы.

5
Ой, выпіці, то-то я,
закусіці, то-то я.
Да работы балят бокі,
бо ні сіла мая.

6
На васелі была,
не палуднала.
Памаленьку скачу,
бо я есці хачу.

7
Як ішла, так ішла,
на кладачку села.
Не наплёў пасталоў,
не пайду на сено.

8
Я сама, я сама,
чалавека німа.
Я свекрухі не баюся,
бо ні маці мая.

9
Не пайду за цябэ,
бо з чужого краю.
Будзеш біці, дакараці,
што роду ні маю.

10
Мая маці рано ўстала,
в саду розу вырвала.
Красу маю змарнавала,
рано замуж выдала.

Запісаў **ПЁТР БАЙКО**

## ЯНА — НЕ НАША

— Веська, вазьмі закуры, — прапанавалі дзяўчыне сяброўкі.

— Не, не буду.

— Падумайце: не будзе! А што ты за такая? З якога стагоддзя? Магла б маднейшай быць!

— Што вы? — здзівілася Крыся. — Яна — не „нашая". І з хлопцамі не сустракаецца, ніхто яе не хоча, такое абы-што.

— Ну, пакахалася б з каторым, калі, вядома, захацеў бы, — смяяліся дзяўчаты.

— Буду кахацца пасля замуства. Не разумею, чаму мне спяшацца ў трэцім класе ліцэя. Што зраблю, калі, не дай Бог, зацяжару?!

— Ды чаго ты пераймаешся? Можна ж асцярожна.

— Я лічу, што гэта немаральна.

— Якая тут немаральнасць? Проста, не ўмееш карыстацца жыццём, як мы. А маладосць прамінае.

Сумна было дзяўчыне, і вельмі прыкра, што няма ў яе сябровак, але стаяла на сваім.

— Во, якая разумніца ідзе! — віталі яе ў школе. — Зноў не захацела прыйсці на імяніны! У кавярню такую валамі не зацягнеш.

Часта моўклі, калі праходзіла міма, або шапталі нейкія таямніцы.

Але калі былі кантрольныя працы, Веся была карыснай суседкай. А пасля — зноў была „не нашай".

**АЎРОРА**

## КРЫЖАВАНКА



**Гарызантальна:** 3. шпіён, 8. частка вупражы, 9. крайняя дошка, 10. крылатая людская постаць, 11. шкодны грызун, 13. вадаспад у Фінляндыі, 15. мужчынскае імя, 16. старажытнагрэчаскі драматург, 20. жывёла, якая знішчае ядавітых змей, 22. матэматычнае паняцце: сума бясконца малых частак, 23. карэнныя жыхары паўночна-ўсходніх Карпат (мн.л.), 27. афрыканская дзяржава з Мапуту, 29. план, 30. дрэва з перыстым лісцем, 31. расліна сямейства гарбузовых, 32. папулярны метал, 33. дарога для цягніка, 34. шлях карабля паміж двума партамі.

**Вертыкальна:** 1. галоўны горад Амазоніі (Бразілія), 2. сталіца Абхазіі, 4. выгляд мясцовасці, 5. усходні ўладар, 6. шум, гул, 7. вялікі манастыр, 12. вага літра вады, 14. дзяржава ў цэнтры азіяцкага кантынента, 16. усходні ўладар, 17. вясковы дом, 18. штат на ўсходзе Індыі, 19. Сальвадор, іспанскі мастак-сюррэаліст, 21. серабрыста-белы метал, 24. парушэнне грамадскага парадку, 25. для катання на лёдзе, 26. рабочае адзенне, 27. беларускі, будуецца ў Гайнаўцы, 28. порт у Харватыі.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з 29 н-ра:** шпагат, глушэц, шкілет, ляднік, матрос, дэталь, цішыня, золата, альбом, блёкат, клямка.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць **Лукаш Пацэвіч** з Беластока і **Пётр Байко** з Белавежы.

## ГАРАСКОП ДРУІДАЎ

**8**

**ЛІПА**, *(11—20 сакавіка, 13—22 верасня).* Ліпу нездарма называюць дрэвам, якое харчуе, абувае, лечыць. Драўніну яе выкарыстоўвалі яшчэ для вырабу мэблі, посуду і як матэрыял для разьбы. Але не толькі таму ў беларускіх вёсках часта можна ўбачыць каля хат старыя ліпы. Як лічылі старажытныя славяне і германцы, гэтыя ліпы ахоўвалі людзей і забудовы ад перуноў і злых духаў. Паўсюдна ў Еўропе расце ліпа, аздабляе нават значную частку тэрыторыі Швецыі і Нарвегіі. На Каўказе і Крыме растуць іншыя, адметныя пароды гэтага карыснага дрэва.

Друіды лічылі, што тыя з людзей, якія нарадзіліся ў другой дэкадзе сакавіка і перад асеннім раўнадзенствам (13—20 верасня), маюць сваім адпаведнікам сярод дрэў ліпу. Пад яе абаяльнасцю знаходзяцца ўсе. Як тут не ўспомніць, як мы ўсе зачараваныя ходзім каля ліп, калі яны цвітуць. Чалавек-ліпа спакойны, уступчывы і ўраўнаважаны, хаця трохі баязлівы і бязвольны. Але ён цешыцца сімпатыяй, бо спрыяе добраму настрою, дапамагае зняць напружанне — цярпліва слухае споведзь, не крытыкуе, прымае блізкіх такімі, якія яны ёсць, і не губляецца, калі яго падвядуць, калі падмануць яго спадзяванні. Такі чалавек хутка прабачае. Да таго ж ён інтэлігентны, мае талент арганізатара.

*(працяг у наступным нумары)*

## МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на адрас: Bank Spółdzielczy w Hajnówce, nr konta 905217-1922-2710, а ў замежнай валюце: Narodowy Bank Polski, I Oddział w Białymstoku, nr rachunku walutowego: 5021-24325-152-6787. Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак 141713 у рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

| | |
|---|---|
| 4 327. Ахвяраванні ўдзельнікаў Купалля ў Белавежы (з двух скарбонак) | — 4.208.500 зл. |
| 4 328. Нэля Шчука (Гайнаўка) | — 100.000 зл. |
| 4 329. Ахвяраванні са скарбонкі | — 10 ням. марак |
| 4 330. Ахвяраванні са скарбонкі | — 10 дол. ЗША |
| 4 331. Гражына і Славамір Бароўскія (Беласток) | — 150.000 зл. |
| 4 332. Пётр Крук (Беласток) | — 50.000 зл. |
| 4 333. Аляксандр Шыла (Гайнаўка) | — 38.500 зл. |
| 4 334. Аляксей Харкевіч (Шчэцін) | — 100.000 зл. |
| 4 335. Ахвяраванні ўдзельнікаў фэстыну ў Старым Беразове | — 734.950 зл. |
| 4 336. Ахвяраванні жыхароў Гарадка | — 120.000 зл. |
| 4 337. Ахвяраванні ўдзельнікаў фэстыну ў Дашах | — 782.000 зл. |
| 4 338. Ахвяраванні ўдзельнікаў фэстыну ў Сямяцічах | — 1.431.150 зл. |
| 4 339. Ахвяраванні ўдзельнікаў фэстыну ў Гайнаўцы | — 2.060.850 зл. |
| 4 340. Ахвяраванні са скарбонкі ў Музеі | — 150.000 зл. |
| 4 341. Ахвяраванні ўдзельнікаў фэстыну ў Бельску-Падляшскім | — 217.000 зл. |
| 4 342. Ахвяраванні ўдзельнікаў фэстыну ў Кленіках | — 1.283.650 зл. |
| 4 343. Сцяпан Багацэвіч (Быдгашч) | — 100.000 зл. |

**Дзякуем.**

**Наш адрас:** Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej w Hajnówce, ul. 3 Maja 42, tel. 30-16.

## АМЕРЫКАНЕЦ

Помню, як мы, дзецюкі, вялі розныя гульні ў калгасных стагах саломы. Кожны з нас меў сваю мянушку; толькі вось адзін, наймалодшы, не меў яе. Давай мы думаць, як яго назваць. Выручыў нас яго родны брат, які запрапанаваў назваць яго „амэрыканэць". Мы згадзіліся, бо ён падобны быў да амерыканца з нашых уяўленняў. Так і назвалі. Аднойчы на выгане гнаў я карову, убачыў яго і закрычаў: „Амэрыканэць, сюды!" Пачуў гэта адзін дарослы і буркнуў: „Здаецца, хлопэць як хлопэць, а амэрыканцём звут". Такія тэта былі сяброўскія дружалюбныя жарты. А сёння „амерыканец" жыве як трэба, разумна і ашчадна, як амерыканец. І навошта нам ехаць у Амерыку?

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**





"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1995 r. upływa 20 listopada 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 65 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 10 000 zł., a kwartalnie - 130 000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

## ПІШУ ЯК ЖЫВУ

*(вынятка з кнігі)*

* * *

У Юрмале каля газетнага кіёска латыш, мужчына салідны, калі меркаваць па прэсе, якую ён браў, зачапіўся адной газетай за нейкую жалязячку.

— Асцярожна, парвецца, — кажу яму.

А ён, з выгляду хутчэй за ўсё рабочы, адказвае з філасофскай усмешкай:

— Ат, меней будзе чытаць!..

ЯНКА БРЫЛЬ

## КОЛА ЖЫЦЦЯ

Школьнік-сын
Прыбег дахаты
І з парога крыкнуў:
— Тата,
Праўду ты казаў,
Нібыта,
Быў настаўнік
Твой сярдзіты?
Бацька глянуў
На малога.
— Не сярдзіты быў,
А строгі.
Ой, даваў,
Бывала, чосу,
Ажно млелі
Лайдакі!
Шморгнуў сын
Кірпатым носам:
— І ў мяне
Цяпер такі...

МІКОЛА КАРАЛЁЎ




Мал. А. Гармазы

## ЖЫЦЦЁВЫЯ ВЫСНОВЫ

Часта перад шлюбам на руках носяць, а пасля шлюбу аб зямлю кідаюць.

* * *

Муж — галава сям'і, а жонка — шыя; куды шыя павернецца, туды галава і глядзіць.

* * *

Хто чужых жанчын шкадуе, той сваю жонку не шануе.

* * *

Сяброў можна мець многа, але жыццёвыя таямніцы не кожнаму даверыш.

АЎРОРА





Мал. А. Гармазы

## ВЫХАВАННЕ

— Вы, Мікалай Мікалаевіч, не можаце наладзіць у нашай школе дысцыпліну...

Дырэктар з жахам глядзеў на акуляры настаўніцы, што шалёна скакалі па пераносіцы. Ён не слухаў яе, а пакутліва чакаў таго моманту, калі будзе названа імя гультая.

— Вучань чацвёртага класа Буйко... — мовіла настаўніца і, заплакаўшы, выбегла з кабінета.

Віця Буйко, якога ўсе ў школе звалі проста Буйвал, стаяў за будынкам школы і нервова зацягваўся цыгарэтай.

— Чым ты тут займаешся? — стрымліваючы злосць, педагагічна запытаў дырэктар у вучня.

— І вас яна дапякла, — спачувальна мовіў школьнік і дадаў: — Ох, гэтая Марыя Іванаўна!..

Дырэктар разгубіўся, не ведаючы, што сказаць.

— Закурыце, — Буйвал працягнуў Мікалаю Мікалаевічу пачак цыгарэт. — Гэта супакойвае.

Дырэктар трохі падумаў, потым узяў цыгарэту, зацягнуўся і пачаў выпускаць кольцамі дым.

— Нармалёва, — пахваліў яго Буйвал і запытаў: — У якім класе пачалі курыць?

— У першым, – ужо спакойна адказаў Мікалай Мікалаевіч.

— Я толькі ў другім...

Пасля трэцяй зацяжкі злосць у дырэктара прайшла.

— Марыя Іванаўна! Марыя Іванаўна, — стагнаў далей шкаляр. — Здаецца, і не благі чалавек, а няма ж у яе ніякага асабістага жыцця, і вось у каго яна ператварылася! Сама заўжды надзьмутая, як той чмель, і іншым настрой псуе.

– Ну ты даеш! — заўважыў Мікалай Мікалаевіч.

— Сама яна нішто сабе, а мужчыны не мае... — працягваў Буйвал.

Дырэктар кінуў на зямлю акурак і гучна плюнуў.

— Ты, Буйвал, не загінай. Кракадзіл яна! Які мужчына захоча жыць з кракадзілам? — схапіў Буйко за вуха і пацягнуў уверх.

— Непедагагічна! — застагнаў хлапчук.

— Невук, — спакойна сказаў Мікалай Мікалаевіч і пацягнуў яшчэ вышэй. — У тваім узросце я ўжо ведаў, якая жанчына прыгожая, а якая — кракадзіл...

— Разумею! Разумею!

Дырэктар адпусціў Байко, даўшы напаследак добрага кухталя, і папярэдзіў:

— Глядзі мне, болей не памыляйся!

ЮСІФ ПАЛУБЯТКА

## СМЕХ У САНАТОРЫІ

* * *

Суддзя да абвінавачанага:

— Чатырох сведкаў бачыла, як вы білі пакрыўджанага.

— А я магу прывесці дваццаць сведкаў, якія гэтага не бачылі, — адказвае падсудны.

* * *

— Прывет, Варка. Я чула ад сябровак, што ты выйшла замуж за слаўнага жывапісца-абстракцыяніста. Як табе з ім жывецца?

— Вельмі добра. Ён піша карціны, а я вару абед. Пасля згадваем: я — што ён намаляваў, а ён — што я наварыла.

* * *

— Афіцыянт! Мой суп зусім халодны!

— А які мае быць? Вы ж заказвалі яго гадзіну таму.

* * *

Да лекара прыходзіць прыгожая маладая жанчына:

— Пан доктар, мой муж ужо тры дні не спіць ад болю.

— Прашу распранууцца і паказаць, у якім месцы яму баліць.

* * *

Прыходзіць баба да лекара:

— Пан доктар, мне часта баліць горла.

Лекар абследаваў горла і кажа:

— Гэта толькі міндаліны: выражам іх і на гэтым канец.

— Пан доктар, мне яшчэ баліць і жывот.

— Гэта пэўна апендыкс: выражам і ўсё.

— Пан доктар...

— Што яшчэ?

— Баюся ўжо гаварыць... Мне часта баліць галава.

* * *

— Стан вашага здароўя вымагае неадкладнай аперацыі, — паведамляе лекар хворага ў бальніцы.

— Ніколі не згаджуся! Лепш памру.

— Адно другога не выключае.

* * *

Прыходзіць старэйшы мужчына да лекара:

— Пан доктар, маю клопат. Кожнай ночы сніцца мне, што ў мой пакой забягаюць і зараз выбягаюць голыя дзяўчаты...

— І хочаце, каб гэтыя сны больш не сніліся?

— Мне яны спецыяльна не перашкаджаюць, толькі зрабіце штось, каб яны так голасна не стукалі дзвярамі.

* * *

У купэ цягніка сядзіць каўбой і пускае дым з цыгары: раз большы, раз меншы. З супрацьлеглага сядзення нервова прыглядаецца яму індзеец. Урэшце не вытрымоўвае:

— Калі яшчэ раз скажаш такое слова, дастанеш у морду!

* * *

— Якая вяршыня інтымнасці?

— Дзве штучныя сківіцы ў адной шклянцы.

Даслаў
АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК

## ЗДАНІ І ПАЧВАРЫ БЕЛАРУСІ

*(працяг; пачатак у н-ры 40 за мінулы год)*

### ІСТОТЫ-ЛЮДАЖЭРЫ

#### Трытон-нафтавік

Часам у Беларусі трапляюцца не толькі традыцыйныя людажэры, але і экзатычныя прадстаўнікі гэтага тыпу істотаў. Сведчанне таму — гісторыя, якая летась надарылася ў глыбіні Палесся...

А пачатак яна мела ў іншай глыбінцы, толькі расейскай — у слынным сібірскім горадзе Ніжневартаўску. Горад гэты вядомы па двух прычынах — па-першае, у расейскіх тубыльцаў з часоў Ермака і Дзяжнёва квітнее дурны промысел: у дзень выплаты грошай палова насельніцтва Ніжневартаўска з малаткамі ў руках пільнуе на цёмных пляцоўках другую палову гараджанаў, якія, не здолеўшы прапіць зароблены на лесапавалах грошы, вяртаюцца дахаты. А па-другое — у такіх дзікунскіх умовах могуць працаваць хіба толькі тыя, хто не спакушаецца на падобныя нацыянальныя гульні, а менавіта беларусы і ўкраінцы, бо этнічны расеец не можа ўстрымацца, каб не быць зачараваным немудрагелістым сэнсам мясцовых традыцый...

Беларусаў, якія працуюць на нафтапромыслах, зазвычай дастаўляюць у гэты своеасаблівы горад-гета самалётам на два тыдні; такім чынам здабываецца расейская нафта, што пампуецца па трубах і прадаецца Заходу — Беларусі, Польшчы і гэтак далей...

Аднойчы брыгада нафтавікоў, працуючы ва ўмовах вечнай мерзлаты і вечнага расейскага ідыятызму, падняла з глыбіні эпохі юрскага перыяду брылу лёду з умерзлай у яго выкапнёвай пачварай, якая знешне нагадвала вялізнага трытона. Успомніўшы, як на радзіме смаляць вепрукоў, беларусы неўзабаве адагрэлі выкапня паяльнай лямпай, мяркуючы, што нечаканы падарунак расейскіх нетраў няблага пойдзе пад гарэлку. Але здарылася наадварот: пачвара, акрыяўшы, умомант адкусіла брыгадзіру руку, у якой той трымаў падрыхтаваную шклянку са спіртам. Тым не менш, нафтавікі, не разгубіўшыся, кінуліся лавіць рэліктавага трытона і, нарэшце, загналі яго ў спынены на рамонт нафтапровод...

Колькі не чакалі нафтаздабытчыкі, гнюсная пачвара так і не вылезла з трубы...

А тым часам ненажэрны Захад чакаў расейскую нафту...

Дзірку давялося зварыць і, запусціўшы помпы, нафтавікі (за выключэнем пацярпелага брыгадзіра), згадваючы падчас адпачынку на гістарычнай радзіме пра гэтае здарэнне, толькі пасміхаліся, уяўляючы тварзы заходніх гандлёвых партнёраў Расеі, калі да іх разам з нафтай трапіць зубаты выкапень...

На жаль, спадзяванні нафтавікоў не спраўдзіліся: атрымалася так, што тая ж самая брыгада нафтаздабытчыкаў наважылася выправіць несправядлівасць і вярнуць хаця б частку нафты, здабытай сваімі рукамі. Дзеля гэтага яны, узброіўшыся газавым рэзаком, выправіліся на ўчастак нафтаправода, што пралягаў праз іх мясцовасць. І трэба ж было здарыцца, што ў гэты самы час пачвара якраз праплывала ў патоку нафты ў тым самым месцы. Пачавара, трапіўшы на волю, спярша даела ў брыгадзіра тое, што засталося пасля рукі, а потым накінулася на астатніх. З'еўшы брыгаду нафтавікоў, задаволены трытон заснуў.

Прыбылыя па выкліку службы энерганагляду палеантолагі, прытрымліваючыся міжнародных пагадненняў, акальцавалі пачвару і запусцілі яе назад у нафтаправод, каб высветліць шлях міграцыі з Усходу на Захад. На жаль, ніякіх звестак ад польскіх і нямецкіх калегаў нашыя палеантолагі не атрымалі і дагэтуль...

Такім чынам, робіцца ясным, што Беларусі лепш за ўсё купляць нафту не ў Расеі, дзе і дагэтуль пануюць вечная мерзлата і немудрагелістыя гульні, а ў больш цывілізаваных за Расеяю краінах — напрыклад, у Арабскіх Эміратах ці Саудаўскай Аравіі. Прынамсі, цывілізаванасць грамадства гэтых дзяржаў дае ўсе падставы меркаваць, што разам з экспартнай нафтай да нас не трапіць чарговая рэліктавая расейская гнюснасць...

*(заканчэнне будзе)*

Падрыхтавалі
ФРАНЦІШАК ХЛУС
і МАРЦІН ЮР